# БРЫГАДА ЛАТЫСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ У БССР

Брыгада складаецца з чатырох.

Характарыстыку я, бязумоўна, пачну з т. Лінарда Лайцэна—выдатнейшага латыскага рэвалюцыйнага пісьменьніка, работы якога набылі шырокую папулярнасьць і па за межамі Латвіі.

Лінард Лайцэн працуе на фронце рэволюцыйнай літаратуры пятнаццаць год, даў цэлы шэраг кніжок, якія маюць ня толькі вялікую ідэёвую каштоўнасьць, але і высокую мастацкую якасьць. Напісаў вялікую колькасьць апавяданьняў, два раманы, кнігу аб ван раваньні па Савецкаму Саюзу і інш. Лайцэн зьяўляецца аўтарам некалькіх п'ес для рабочага тэатра. Частка з іх, як забароненая, у буржуазнай Латвіі не надрукована, але ў вызначэньні шляхоў разьвіцьця латыскага рэвалюцыйнага тэатру, разам з тэарэтычнымі артыкуламі тав. Лайцэна, яны ўсё-ж мелі вялізарнае значэньне.

На беларускай мове выданы раман Лайцэна „Взывающие корпуса" (1931 г.). Акрамя таго Выдавецтвам Беларусі надрукована яго апавяданьне на яўрэйскай мове. Зьявіліся ў друку некалькі яго вершаў і апавяданьняў на яўрэйскай і беларускай мовах. На рускай мове збор твораў Лайцэна вышаў асобнымі выданьнямі ў форме чатырохтомніка выбраных твораў і, нарэшце, у сучасны момант выдаюцца ў форме збора твораў, чатыры тамы, якія ўжо надрукованы Ленінград). Ёсьць таксама цэлы рад перакладаў яго твораў на украінскую, нямецкую і інш. мовы.

Лайцэн ня толькі пісьменьнік. Ён таксама—журналіст і ўсе апошнія гады праводзіў актыўную палітычную работу. У 1928 г. ён зьяўляецца членам рабоча-сялянскай фракцыі ў Латвійскім сойме. Два гады сядзеў у царскай турме і неаднакраць быў пазбаўлены волі ў дэмократычнай Латвіі, адкуль выехаў некалькі месяцаў таму назад.

Малады паэт Пятро Кікутс — аўтар двух збораў вершаў паэмы і некалькіх апавяданьняў. Шлях, па якому ён ішоў у апошнія гады, быў надзвычайна цяжкі, гэта шлях - ад партыі латвійскіх сацыялістаў да рэвалюцыйнага пралетарыяту. У часы, напярэдадні апошніх выбараў у латвійскі сойм, тав. Кікутс зьяўляўся пісьменьнікам-журналістам. Яго, як рэдактара газэты рабочай рэвалюцыйнай апазыцыі сацыялістычнай партыі, сацыял фашысты аддаюць суду, які прыгаварыў тав. Кікутс на чатыры гады катаргі. З гэтае прычыны тав. Кікутс ужо некалькі месяцаў, як эміграваў у Савецкі Саюз.

Таварыш Прэднэкс—латыскі савецкі паэт, увесь час жыве ў СССР. Мае кнігі вершаў і акрамя таго друкуе ў латыскім друку нарысы аб сацыялістычным будаўніцтве.

Я—крытык і публіцыст. Маю адну кніжку, друкаваў артыкулы ў латыскіх, нямецкіх і рускіх часопісах у Латвіі, Германіі і Савецкім Саюзе. З Латвіі прыехаў ў 1930 годзе, жыў у Бэрліне, а зараз працую ў Маскве. У латыскай турме, бязумоўна, сядзеў, бо ў латвійскай „дэмократыі" пісьменьніку не пазьбегнуць гэтага.

Наша брыгада накіравана латыскім літаратурна-грамадзкім часопісам „Цэлтнэ" („Стройка"), які выдаецца ў Маскве.

Мы маем заданьне па правядзеньню масавай работы сярод латыскіх рабочых і калгасьнікаў. З Менску мы накіроўваемся ў Віцебск, Смаленск і ў латыскія калгасы.

Але ня менш важнай задачай мы лічым наладжваньне і замацаваньне больш цеснай сувязі латыскай савецкай літаратуры з літаратурай народаў Беларусі—беларускай, яўрэйскай, літоўскай і інш. Мы ўпэўнены, што вечар сустрэчы з гэтымі пісьменьнікамі, наладжаны Аргкамітэтам Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі, надзвычай добрыя, таварыскія адносіны да нас з боку пісьменьнікаў, Выдавецтва, зьяўляюцца прад'умовай і гарантыяй таго, што наша паездка набудзе важнае значэньне.

Азнаямленьне з дасягненьнямі сацыялістычнага будаўніцтва і, асабліва, з дасягненьнямі на вучастку будаўніцтва культур народаў Беларусі, сацыялістычных па зьместу і нацыянальных па форме,—вось трэцяя, ня менш важная мэта нашай паездкі.

Нашы наведваньні тэатраў, канфэрэнцыі драматургаў, наша азнаямленьне з дасягненьнямі пісьменьнікаў, выдавецтва Беларусі, нашы ўражаньні ад сацыялістычнага будаўніцтва Менску—ўсё гэта дало нам яркі малюнак вялізарнейшага культурнага і эканамічнага росту Беларусі, якая ў гэтых адносінах перагнала зробленае стагодзьдзямі царскай Расіі.

Усё гэта дало нам багаты матар'ял і ўзмацніла нашу ўпэўненасьць у тым, што ў пабудове бясклясавай сацыялістычнай грамады БССР ідзе наперад шпаркім крокам і яшчэ:

што ў краіне сацыялізма пісьменьніку працаваць надзвычай радасна.

З мэтай паказу латыскім працоўным культурнага будаўніцтва БССР, і яе дасягненьняў намі рыхтуецца спэцыяльны нумар нашага часопісу „Цэлтнэ" („Стройка"), які адначасова зьявіцца першым крокам да далейшага набліжэньня літаратур двух брацкіх народаў СССР.

**Эміль Фросс.**



**Латыскія пісьменьнікі ў рэдакцыі „Чырвонай Беларусі"**
**Сядзяць зьлева направа т. т. Браўковіч—заг. ДВБ, Л. Лайцэн, П. Кікутс, Э. Эфрос, А. Некрашэвіч.**
**Стаяць т. т. П. Скокаў, М. Чарот, М. Хведаровіч, М. Лынькоў, Р. Мурашко.**

На першай стар. вокладкі першы сакратар ЦК КП(б)Б тав. М. ГІКАЛО, які выступіў з вялікай прамовай на Усебеларускім зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВІК

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 59. Тэл. аўтамат № 22-785

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ

САКРАТАР П. СКОКАЎ

АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

САКАВІК № 7 (79) 1933

ГОД ВЫДАНЬНЯ IV

## ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД КАЛГАСЬНІКАЎ-УДАРНІКАЎ



У прэзыдыуме першага ўсебеларускага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў. Сярод членаў прэзыдыуму—лепшых калгасьніц-ударніц т. т. Чарвякоў, Рачыцкі і нарком РСІ т. Лычоў



Дэлегат Чырвонапольскага раёну т. Цэлюга—калгасьнік калгасу „Крэмль"



Тав. Талтынская—дэлегатка Барысаўскага р-ну



Тав. Калтунова—калгасьніца калгасу „Хваля", Веткаўскага раёну



Тав. Семашка—дэлегат Пухавіцкага раёну



Тав. Шынкарчук—дэлегат калгасу „Чырвоны Араты". Ельскага раёну



Тав. Садовы—дэлегат з Віцебскага раёну, рабочы—дваццаціпяцітысячнік

два—тры гады паднімем усіх калгасьнікаў—і былых беднякоў і былых серадпякоў—да ўзроўню заможных, да ўзроўню людзей, якія карыстаюцца багацьцем прадуктаў і вядуць зусім культурнае жыцьцё.

У гэтым цяпер наша бліжэйшая задача. Гэтага мы можам дабіцца і гэтага мы павінны дабіцца ва што-б там ні стала.

Пройдзены шлях напорыстай бальшавіцкай работы паўстаў перад аўдыторыяй калгасьнікаў—дэлегатаў зьезду, зразумелым, блізкім, кроўна-дарагім. Зразумелым таму, што гэты шлях выбран ы вялікай партыяй Леніна—Сталіна, шлях па якому крочаць ударнікі сацыялістычных ф брык і заводаў, калгасьнікі, і сваімі рукамі робяць вялікую справу, якой у гісторыі ня ведала чалавецтва.

## IV

Зьезд працаваў пяць дзён.

З шчырасьцю, як брат сустракае роднага брата, сустракалі рабочыя сталіцы сваіх гасьцей, паказвалі ім фабрыкі і заводы, апавядалі пра сваю ўдарную работу, раіліся з калгасьнікамі, як агульнымі сіламі рушыць наперад справу сацыялістычнага земляробства. Дні зьезду былі днямі яшчэ большага ўмацаваньня непарушнай сувязі саюзу рабочае клясы і сялянства.

Горача і аднадушна выступалі дэлегаты ў спрэчках па дакладу, расказвалі кожны аб сваіх посьпехах, недахопах, аб барацьбе з кулацтвам—заклятым ворагам калгасаў. З вялікай любоўю і адданасьцю сустрэлі дэлегаты выступленьне першага сакратара ЦК КП(б)Б тав. *Гікало*, старшыні ЦВК БССР тав. *Чарвякова*, старшыні СНК БССР тав. *Галадзеда* і інш. І тут было бачна як гіганцкі вырасла краіна і яе будаўнікі.

Пра рост нашай жанчыны—ударніцы красамоўна сказалі дэлетаты, яны падалі безьліч пераканаўчых прыкладаў ударнай работы жанчын з калгасаў, з іх барацьбы за бальшавіцкія мэтады працы ў калгаснай вытворчасьці.

Старшыня камуны „Красная поляна" тав. Шалапашнікава, вітаючы Ўсебеларускі зьезд ад калгасьнікаў Заходняй вобласьці, гаварыла:

„Таварышы калгасьнікі—ударнікі і ўдарніцы, мы павінны стаць заможнымі на нашых сацыялістычных палёх.

Зямля ў нас ёсьць, рукі ў нас, таварышы, таксама ёсьць, машыны ў нас ёсьць. Сёньня мы сабраліся для таго, каб выкрыць недахопы, дапушчаныя ў мінулым, каб абменяўшыся вопытам, па-бальшавіцку, па-баявому ўзяцца за веснавую сяўбу.

Таварышы жанчыны! Вы ведаеце, якая была справа наша раней: мыць, пячы, паліць. А цяпер кім стала жанчына? Выступае на такім вялікім зьезьдзе, пры такой колькасьці людзей і ўмела абгаварвае ўсе тое, што яна павінна зрабіць у веснавую пасеўную кампанію.

Таварышы жанчыны! Таварыш Сталін сказаў, што мы калгасьнікі—вялікая сіла. Мы павінны стаць яшчэ на галаву вышэй.

Мы—старшыні, мы—матарысты, мы—машыністы на ўсіх нашых франтах апраўдваем наказ таварыша Леніна аб тым, каб жанчына навучылася кіраваць дзяржавай. І яна ўдзельнічае ў кіраўніцтве дзяржавай".

Калгасьніца з калгасу імя Карла Маркса, Слуцкага раёну, Кароль Алена, якая езьдзіла ў Смаленск падпісваць сацыялістычны дагавор на спаборніцтва калгасаў БССР з калгасамі Заходняй вобласьці, выступаючы на сваім зьезьдзе, гаварыла:



Пасадка дэлегатаў на аўтамашыны ў часе адпраўкі іх на месца атрыманьня мандатаў



Дэлегаты зьезду сумесна з рабочымі друкарні імя Сталіна ідуць з вакзалу



На здымку: чырвоны абоз, арганізаваны калгасамі Менскага раёну ў гонар зьезду калгасьнікаў у дзень яго адчыненьня

Наш калгас імя Карла Маркса ідзе як перадавы ў Слуц кім раёне. З нашага калгасу на Ўсебеларускі зьезд выбралі двух жанчын. Таксама на раённы зьлёт з нашага калгасу выбралі трох (двух жанчын і аднаго мужчыну). Дык бачыце, таварышы, што ў нашым калгасе жанчыны перавышаюць...

Хаця нас кулакі страшылі, што ў калгасах паздыхаеце з голаду, але ўсё-ж мы на справе здолелі арганізаваць свой калгас і забясьпечыць калгасьнікаў тымі прадуктамі, якія патрэбны, якіх мы ня мелі раней, калі былі аднаасобнікамі. Няхай паздыхаюць кулакі, якія сьмяяліся над намі. Мы перамаглі на зло кулакам. Мы жывем, расьцем і будзем далей яшчэ больш расьці».

Гэтыя словы саміх ударніц—рэальны доказ росту нашай жанчыны, узмацненьня яе ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве нашай краіны.

Перад ад'ездам жанчыны-дэлегаткі расказалі аб тым, што ім даў зьезд і з чым яны вяртаюцца дахаты.

Дэлегатка калгасу «Пяцігодка ў чатыры гады»—Мсьціслаўскага раёну, таварыш Шарава Параска, сказала: «Хоць мяне некаторы год лічаць лепшай ударніцай, але тут была памылка. Якая-ж я была дагэтуль ударніца, калі мала што ведала, калі ня верыла таму, што казалі на нашых сходах прадстаўнікі партыі. У вёсках кулакі выдумваюць розныя нябыліцы. Напрыклад, у нас пусьцілі хлусьню аб тым, што наша краіна зусім бедная, што яна сама нічога добрага зрабіць ня можа, ні машын, ні мануфактуры, а ўсё, нібыта, купляе за мяжой. Гэтыя ўсе пытаньні мяне мучылі, ламала я, баба, сваю галаву, а добра распытаць каго-небудзь сароміласяі не адважылася.

Цяпер-жа я стала зусім другой,—гаварыла радасна т. Шарава.—Сама сябе не пазнаю. Цяпер я добра ведаю, на што мы працуем, куды вядзе нас, калгасьнікаў, партыя, наша савецкая ўлада. Хай цяпер мне хто скажа, што наша краіна бедная ды нічога рабіць ня ўмее, дык таму я вочы павыдзіраю. Цяпер я варочаюся ў свой калгас,—заключае тав. Шарава,—сапраўднай ударніцай. Шмат аб чым будзе дома расказаць. У мяне цяпер ёсьць шмат думак пра тое, што зрабіць прыехаўшы, каб наш калгас «Пяцігодка ў чатыры гады» працаваў яшчэ лепш і даў у гэтым годзе больш усякага дабра дзяржаве і калгасьнікам.

* * *

Перад ад'ездам сустрэча адбылася на вакзале. Монус Міркін чакаў цягніка. Ён перакідваўся словамі з дэлегатамі з якімі давялося ехаць разам.

— Ну, як, браце! З чым едзеш дамоў?—прыжмурваючы вочы, пытаў Монус дэлегата з Горацкага раёну.

— Вязу скарбніцу для свайго калгасу. Зьезд—гэта табе ня што-небудзь. Ехаў я і думаў: ну зьежджу—добра. Пабачу сталіцу, бо першы раз еду. Але тут табе зусім ня тое. Нібы я курсы якія скончыў і дамоў еду зараз. Цяпер мне ня трэба, каб хто-небудзь гаварыў пра калгаснае жыцьцё.

— Дык, гаворыш, нібы курсы скончыў,—зноў спытаў Монус.

— А думаеш не? Дык і не на ўсякіх курсах можна таму навучыцца, чаму я навучыўся за гэтых пяць дзён,—адказаў дэлегат.

— Ну, добра. А скажы ты мне, калі ты курсы скончыў,—як вось, скажам, справа стаіць зараз наконт багацьця,—запытаў Монус, маючы намер паспрабаваць веды свайго таварыша.

— Багацьце наша ў нашых руках. А трэба сказаць—рукі ў нас надзейныя. Выйдзе, браток, у нас з гэтай справай. Хоць узяць мяне самога. Быў час, калі я быў ні тое-ні сёе. Глядзеў на калгас, як лянівы конь праз дугу. А ёсьць і горшыя людзі. Працаваць яны зусім не хацелі. Зьнесьлі тое, што ў каго было і клопату мала. А цяпер ня тое. Рабіць ня будзеш, дык і есьці ня будзеш. А калі будзеш рабіць, дык ўсе будуць рабіць дружна, убачыш і багацьце сваё. Нікуды яно ня дзенецца, у цябе-ж будзе. Працавітымі рукамі ўсё можна здабыць.

— А усё-ж такі з багацьцем як будзе?—перапытаў Монус.

— Я-ж гавару: нам падвязуць зараз машыны, спарней значыцца, работа пойдзе. На машыне чорту галаву можна адкруціць. Пусьці-ж на поле трактар,—ён за дзесяцярых коняй табе зробіць. За тое кароў будзем больш трымаць, будзе малака і масла болей. Іншую жывёлу разьвядзем.

— Коні таксама патрэбны, ты забываешся аб адным з галоўных,—уставіў Монус.

— Я ня супроць. Коні нам патрэбны, ды яшчэ як. Вось тое дабро, нажытае намі, няма—агульнае, выпрацаванае калектыўна, нам трэба абярагаць. Людзі на нас гарматамі пазіраюць з-за мяжы, хочуць паспрабаваць нашу моц. І тут, браце, нам коні патрэбны, ды яшчэ якія.

— Дык ты гаворыш праўду. Калі будзем працаваць як сьлед—справа ў нас выйдзе напэўна. Багацьце ў калгасе нажываецца дружнай працай калектыву,—зазначыў Міркін.

— А ты думаў як? Толькі-ж так,—адказаў таварыш-дэлегат і яны рушылі на пэрон.

---

**Інтарэсы барацьбы з рэшткамі кулацтва, са шкодніцтвам, з раскрадваньнем грамадзкай уласнасьці, інтарэсы ўмацаваньня калгасу патрабуюць ад нас, калгасьнікаў устанавіць больш правільныя адносіны з працоўнымі аднаасобнікамі, устанавіць адзіны фронт барацьбы супроць ворагаў працоўнага народу, адзіны фронт барацьбы за посьпех веснавой сяўбы.**

(З адозвы першага Ўсебеларускага зьезду калгасьнікаў да ўсіх сялян-калгасьнікаў БССР).

---

ЦІШКА ГАРТНЫ

## КАЛГАСНАМУ ЗЬЕЗДУ

Калгасьнікі, ударнікі палёў,
Байцы мільённае брыгады!
Сышліся мы ў Чырвоны Менск
Вясьці адказную нараду.

Прад вамі лёг завабны шлях—
Дарога гонару і славы
На аграмаджаных палёх
Сацыялізму ладзіць справу.

Старая вёска вашых дум
Няхай ўжо болей ня трывожыць,
Ніхто наперад поступ ваш
Ня спыніць, вас не пераможа.

Дарэмны ворагаў намер
Падняць былое з-пад развалін,
Вас мужна партыя вядзе,
Якой кіруе мудра Сталін.

Будуйце новае жыцьцё,
Камуны вышай узносьце вежы,
Багацьце працы свае плён
На полі вольным і бязьмежным.

Насустрач повеем вясны
Змыкайце ўдарныя калёны,
Зямля ўрадлівай, каб была
І ўсе засеяны загоны.



Рыхтуйце снасьці і каня,
Гатоўнасьць дружную крапеце,
Гісторыя вызначыла вам
Удзел у жыцьці, шчасьлівшы ў сьвеце.





Рабочы з думкамі пры вас—
Ён дбае вам пра дапамогу
Да мэты сьветлае прайсьці,
Асвоіць ясную дарогу.

Якой вас партыя вядзе—
Славуты вождзь рабочай клясы,
Чыя ідэя прамяніць
У істоце кожнага калгасу.

Хто волю мас кондэнсаваў
І зьліў, як цэмантам, змаганьнем;
Хто з мук адвечных вывеў вас,
Хто вырваў вас з цяжкога стану;

Чыё імя—мільёнаў сьцяг,
Які яны высока ўзьнялі;
Чые рады ўшчыльняў Ільліч,
Чые рады гартуе Сталін.

Няхай калышацца ў грудзёх
Руплівым клопатам трывога,
За кожны колас збажыны,
За кончык леза ад нарога.

За шрубку ў трактары, за грам
К сяўбе прыпасенага збожжа!
Дабро калгаснае няхай
Пільнуе ўважліва з вас кожны.

Вы жорсткай караю ў адказ
Плацеце ворагу за шкоду..
Вам сакавітыя палі
Дадуць за працу ўзнагароду.

Няхай-жа рэзва трактары
Ральлю аздобяць зычным сьпевам,
Спабораць з працаю брыгад
Пры пільным ўдарніцкім пасеву.

Калгасьнікі, ударнікі палёў,
Прад вамі лёг завабны шлях—
Дарога гонару і славы—
На аграмаджаных палёх
Сацыялізму ладзіць справу!



## ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД КАЛГАСЬНІКАЎ-УДАРНІКАЎ

Здымкі фото-брыгады Х. Каган, М. Рывін, В. Розэнбліт, І Салавейчык

Дэлегаты зьезду ў часе атрыманьня мандатаў

Дом культуры, у якім праводзіў сваю работу першы ўсебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў БССР

Дэлегацыя рабочых менскіх заводаў і фабрык, якая вітала зьезд калгасьнікаў-ударнікаў



Першы сакратар ЦК ЛКСМБ т. Л. Д. Герцовіч сярод камсамольцаў дэлегатаў першага ўсебеларускага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў



Дэлегацыя Заходняй вобласьці, якая вітала зьезд і падпісала ўмову на соцспаборніцтва ў веснавой сяўбе з калгасамі БССР

**Выканаць усе правілы агратэхнікі па пасеве і ўборцы ўраджаю, увесьці ў 1933 г. ва ўсіх калгасах правільны севазварот, які зьяўляецца адным з асноўных сродкаў павышэньня ўраджайнасьці.** *(З адозвы зьезду).*



У залі паседжаньня зьезду. Дэлегаты слухаюць даклад т. Шаранговіча

**Установім цьвёрдую пралетарскую дысц... таварышы, па-сапраўднаму ўзяцца за лоды... нікаў. Няма чаго іх трымаць на ... сумле...**

**На заводах з лодырамі, прагульшчыкамі... гуляў бяз уважлівых прычын дзе ... -ідзі з...**

**Таму там і дысцыпліна, і парадак, і пра... шаюцца. Мы павінны цяпер ня менш строгі па...**

**Дысцыпліна—першы сродак ... беспа... лёгкага хлеба ў калгасах.**

**Мы зварачаемся да ўсіх калгасьнікаў ... дарагі інтарэсы калгасаў, хто хоча ... за барацьбу супроць парушэньняў працоўнага...**

**Не дазволім кулаку, лодыру, прагульшч... працоўную дысцыпліну і расхістваць калгас... кулакоў і дармаедаў, лішніх прыхлебальнікаў... нікаў" ля катла з кашай. Не, скажам ім, ... не разяўляй". Хто не працуе—той ня есьц... таму няма чаго рабіць у калгасе. ...заправ... такі-ж вораг калгасу, як і кулак. ... першы... аштрафуем на пяць працадзён, ... вышаў... будзем бязьлітасна выкідваць з калгасу. Та... ЦВК, так гаворыць і статут арцелі. Так паві... і прагульшчыкамі.** *(З адозвы першага ўсебе... нікаў да ўсіх сялян-калгасьнікаў БССР).*



На здымку: дэлегаты з Гомсельмашу, ля трыбуны т. ...

**Рабочыя БССР, у прыватнасьці рабочыя ... шмат нам дапамагаюць. Менскія, магілёўс... аршанскія заводы зараз прымацаваны да ма... да майстэрань для рамонту трактараў.** (З ...



Прадстаўнікі Чырвонай арміі вітаюць зьезд калгасьні...

…етарс…ю дысцыпліну ў калгасах. Трэба, …зяшча…а лодыраў, гультаёў і прыхлябаль- …на … і сумленных калгасьнікаў.

…прагу…шчыкамі размова кароткая. Пра- … дзе…—ідзі з вытворчасьці.

…пара…к, і прадукцыйнасьць працы павы- …мен…трогі парадак завесьці і ў калгасах. …дак а… беспарадку і засільля аматараў

…калга…нікаў рэспублікі, да ўсіх тых, каму …то хв…зе за іх душой, узмацніць сваю …аў пр…оўнага парадку.

…ыру, …агульшчыку і абібоку падрываць …іства… калгас. Выступім як адзін супроць …прыхл…бальнікаў—лодыраў у полі і „ўдар- … ска…м ім, „на калгасны каравай роту …—той …ня есьць. Хто ня хоча працаваць, …гасе. …папраўны лодыр і прагульшчык— …лак. …а першы раз мы яго папярэдзім і …ён, н… вышаў на работу ў другі раз,— …ь з к…гасу. Так гаворыць пастанова сэсіі …рцел…Так павінны мы рабіць з лодырамі *(… перш…а ўсебеларускага зьезду калгась- …нікаў …ССР).*



…ля т…буны т. Кофман вітае дэлегатаў зьезду

…ьці …бочыя сталіцы Беларусі—Менску, …кія, …агілеўскія, гомельскія, віцебскія, …цавa…ы да машына-трактарных станцый, …ракта…аў. *(З адозвы зьезду).*



…зьез… калгасьнікаў



Сакратар ЦК КП(б)Б т. Шаранговіч адкрывае першы ўсебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў




На здымку: дэлегаты зьезду знаёмяцца з вырабам нашых машынабудаўнічых заводаў

В. ЛЕАНІДА



# ВЯСНА

*(НІЗКА ВЕРШАЎ)*

**1. Азначэньне старой вясны**

... І згадаеш падчас
у лятунках-думах,
На'т ня верыш сабе,
а было калісь:
Заклікалі у госьці
к сабе вясну мы
На пустыя свае палі.
Мы вясну азначалі
па блакітнасьці неба,
Калі кволаю бельлю
расьцьвіталі сады.
Мы вясну сустракалі
без кавалка хлеба,
І чакалі хутчэй лебяды.
І тады хлапчуком
у кашулі зрэбнай
Я ішоў працаваць
да чужых людзей,
Каб хоць грызьці
кавалачак чорствага хлеба,
Размачыўшы ў сьцюдзёнай вадзе.
Гэтак дні прабягалі
няспыннай лявінай,
Красавалася збожжа
на чужых палёх.
Мы-ж за працай
амаль ня выпраствалі сьпіны,
І клялі свой мужычы лёс.
І цьвіла,
адцьвітала вясна неаднойчы,
Вандравала бяда за бядою
ўсьлед.
Толькі сэрца паліла
надзеяй прарочай
Думы-скарбы жыцьця
аб сапраўднай вясьне.

**2. Азначэньне новай вясны**

І прышла яна к нам
(не з пялёсткамі ружаў),
Сотняй новых турбот
надарыла нас.
І прышла яна к нам
маладою і дужаю—
Вось якая вясна!
Бальшавічка вясна!
Мы кахаем яе
(вось такую—няйначай)
Не за сьпеў салаўя,
не за кветкі руж...
Мы ударнай сяўбою
яе азначым,
Каб расла на палёх
маладая рунь.
Ад сібірскай тайгі—
да украінскіх стэпаў,
Ад Далёкага Ўсходу—
да мазырскіх палёў
Рупнай працай сваёй,
ураджайнасьцю глебы
Мы ўпрыгожым вясны
маладое чало.
Калі трэба—
прымусім стыхію скарыцца
(Зможа што
бальшавіцкую ўпартасьць суняць!)
Закрасуюць палі
ў ячмянёх і пшаніцы—
Вось такой
будзе наша
вясна!

**3. Мы рыхтуем насеньне к сяўбе**

Адшумелі у завеях дні,
І вясна кладзе сваю адзнаку.
Пад павевам лёгкай цяплыні
Сакавік ад радасьці заплакаў.
Не адзін узгорак паліняў,
Пацямнела белае аблічча.
Гэта значыць хутка зноў да нас
Прыдзе ў госьці наша Бальшавічка.
І тады ударнаю сяўбой
Узрушым мы Савецкія абшары.
Будзе бой—
упарты будзе бой
За ўрадлівыя палёў гектары.
І таму такі вось гул і трэск
Аблятае сёньня загуменьні.
Трэ'-ж вясну калгасную сустрэць
Буйным,
чыстым
яравым насеньнем.
На гумнах—
калгасаўскіх гумнах
Неўгамоннай стройнаю калёнай
Цэлы дзень ад раньня да цямна
Бязупынна трыеры гамоняць.
І адвозяць зерне трактары..
Мы вясну па-ўдарнаму страчаем
Каб змагла нас восень надарыць
Бальшавіцкім
добрым
ураджаем!

**4. Штурм палёў**

Восем сутак ішоў
бязупынна
дождж,
Восем сутак у хмары
было апранута
неба.
Восем сутак паіла
вясна
вадой
Ненасытныя
грудзі
глебы.
Восем сутак вятры
свой
далёкі рэйс
Прабягалі няспынна
з усходу
на захад.
Восем сутак
ад холаду
гной пятрэў,
Пакідаючы глебу
бяз тлустага
паху.
І малюнак
жывым
прад вачыма стаяў,
Ня зьнікала трывога
ні ўдзень
ні ўночы.

ПЕРШЫ УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД КАЛГАСЬНІКАЎ-УДАРНІКАЎ

Кожны ведаў,
што будуць палі
пуставаць,
Калі ворыва
ў тэрмін
ня скончыш.
А каб з бою ўзяць
сотні новых
га,
Каб упартасьць стыхіі
магчыма был
адужыць,—
Тут патрэбен быў
бальшавіцкі
гарт,
Тут патрэбна была
бальшавіцкая
дужасьць.
Мы ня думалі нават
праз свой
адпачын,
Бо на кожнай хвіліне
была
турбота.
Мы кляліся,
што зможам
стыхію змагчы,
І ў атаку ісьці
хоць на самага
чорта.
І калі пад вятроў
неўгамонлівы
марш
Дзень прыстаў адпачыць
на далёкую
прыстань
Выйшлі ў поле тады
цаліну
уздымаць
Восем нас,
маладых,
юнакоў-трактарыстаў
Мы ня спалі ні хвілі
ўсю ноч
навылёт,
На змаганьне з стыхіяю
выйшлі
усе мы
За 400 га
ураджайных
палёў,
За 400 га
яравога
пасеву.
Толькі вецер няспынна
і плакаў,
і выў,
Дождж халодны
апырскваў нам
потныя твары.
І ня кідаў ні разу
руля
рулявы...
Гэтак з бою мы бралі
гэктар
за гэктарам.
Раніцой-жа,
калі гураган
замоўк,
І ўсход
пазалотаю
быў апырскан,—
Мы дзяліліся
радасьцю
перамог,
Паціскаючы рукі
па-таварыску.
. . . . . . . . . .
Хутка ляжа сюды
яравое зярнё,
Узрасьце,
зашуміць, закрасуе калосьсе.
А як прыдзе пара,
тады выйдзем мы зноў
З ураджаем вітаць
бальшавіцкую восень!

Люты—сакавік, 1933 г.

Здымкі фото-брыгады: К. Каган, М. Рывін, В. Розанбліт, І. Салавейчык

Дэлегаты зьезду з т. Чарвяковым за вячэрай у часе сустрэчы з рабочымі заводу „Камунар“

Лепшы ўдарнік заводу „Камунар“ вітае дэлегатаў зьезду, якія наведалі зьезд

Дэлегаты зьезду з т. т. Чарвяковым і Шаранговічам у гасьцёх у чырвонаармейцаў

— Звальняйце з калгасу, што хочаце рабеце, а хлеба — вось вам хрыстос — няма. Няхай улада хоць пад процант дасьць...

— Ты прывык савецкую ўладу падсысаць.

А грошыкі, што браў пазычкова на куплю садзілкі і травакасілкі, вярнуў крэдытнаму таварыству? То-ж бо то і ёсьць. Гэтыя грошыкі зажыліў, ды яшчэ і хлебам хочаш паджывіцца.

— Усё адно цяпер і травакасілка і садзілка — калгасныя, самому не давялося пакарыстацца, дык нечага і ўпікаць.

— Ты вязі хлеб, а то дрэнна табе будзе. Прывык маніць! Брыдка!

— Ды я-ж бы з вялікай душой, каб ён быў...

Як не змагаўся Нагульнаў, як не ўгаварваў, чым не пагражаў, а ўсё-ж прышлося адпусьціць нежадаўшых засыпаць насеньня. Яны вышлі, хвіліны дзьве перамаўляліся ў сенцах, потым зарыпалі сходцы. Трошкі пачакаўшы, ўвайшоў аднаасобнік Рыгор Баньнік. Ён мусіць ужо ведаў аб тым, чым скончыліся размовы з толькі што вышаўшымі з сельсавету калгасьнікамі, у кутках вуснаў яго падрыгвала самаўпэўненая, задзёрыстая ўхмылачка. Нагульнаў дрыжачымі рукамі разгарнуў на стале сьпіс, глуха сказаў.

— Садзіся, Рыгор Мацьвеявіч.

— Дзякуй на запросіны. — Баньнік сеў, шырока расставіў ногі.

— Што-ж гэта ты, Рыгор Мацьвеявіч, насеньне не вязеш?

— Але-ж навошта яго везьці?

— Дык была-ж пастанова агульнага сходу і калгасьнікам і аднаасобнікам—насенны хлеб завезьці. У цябе-ж ён ёсьць?

— А як-жа, вядома ёсьць.

Нагульнаў заглянуў у сьпіс: супроць прозьвішча Баньніка, у графе „прыблізная плошча яравога пасеву ў 1930 годзе" стаяла лічба 6.

— Ты зьбіраўся ў гэтым годзе 6 *га* пшаніцы сеяць?

— Так точна.

— Значыць сорак два пуды насеньня маеш?

— Усё поўнасьцю маю, падсеяны і ачышчаны хлябец, золатца.

— Ну, гэта ты герой, — лягчэй уздыхнуўшы, пахваліў Нагульнаў.—Вязі яго заўтра ў агульны сьвіран. Можаш у сваіх мяшкох пакінуць. Мы ад аднаасобнікаў нават у іх мяшкох прымаем, калі не захочаш зерня мяшаць. Прывязеш, здасі на вагу загадчыку, ён накладзе на мяшкі сургучовыя пячаткі, выдасьць табе расьпіску, а вясною атрымаеш свой хлеб цэлянькім. А то многія скардзяцца, што не схавалі, паелі. А ў сьвірні ён надзейней захаваецца.

— Ну, гэта ты, таварыш Нагульнаў, кінь!

Баньнік разьвязна ўхмыльнуўся, прыгладзіў белявыя вусы.

— Гэты твой нумар ня скача! Хлеба я вам не дам.

— Гэта чаму-ж, дазволь запытацца?

— Таму, што ў мяне ён лепш схаваным будзе. А вам аддай, а к вясьне і парожніх мяшкоў не атрымаеш. Мы зараз таксама вучонымі сталі, на крывой не аб'едзеш!

Нагульнаў ссунуў разлатыя бровы, чуць пабялеў.

— Як-жа ты можаш сумнявацца ў савецкай уладзе? Ня верыш, значыць?

— Ну але, ня веру! Наслухаліся мы брахні ад вашага брата!

— Гэта-ж хто брахаў? І што? — Нагульнаў пабялеў яшчэ болей і памаленьку прыўстаў.

Але Баньнік, нібы не прыкмечаючы, усё так-жа ціха ўсьміхаўся, паказваючы буйныя рэдкія зубы, толькі голас яго задрыжаў крыўдаю і горкаю злосьцю, калі ён сказаў:

— Зьбярэце хлябец, а потым яго на параходы дый у чужыя землі. Антанабілі купляць, каб партэйныя з сваімі стрыжанымі бабамі каталіся? Зна-а-а-ем, на што нашу пшанічку гаціце? Дажыліся да роўнасьці!

— Ды ты адурэў, чарцяка? Ты што гэта балбочаш?

— Нябойсь, адурэеш, калі цябе за горла возьмуць! Сто шаснаццаць пудзікаў па нарыхтоўцы вывез? А зараз апошняе насеньне хочаце... каб дзяцей маіх... агаладзіць!..

— Сьціхні! Брэшаш, гад!—Нагульнаў стукнуў кулаком па стале.

Зваліліся на падлогу лічнікі, перакінулася чарніліца з чарнілам. Густы фіялетавы струмок, блішчучы, прапоўз па паперы, упаў на палу дубленага паўкажушка Баньніка. Той змахнуў чарніла далоньню, устаў. Вочы яго звузіліся, у кутках губ ускіпела белая пена і са здушаным шаленствам ён выхрыпеў.

— Ты на мяне ня цыкай! Ты на жонку сваю Лушку стукай кулаком, а я табе ня жонка! Сёньня не двадцаты год, зразумеў? А хлеба ня дам!.. Каціся ты!..

Нагульнаў быў нацягнуўся да яго праз стол, але зараз-жа, пахіснуўшыся, выпрастаўся.

— Ты гэта... Чые-ж прамовы?.. Ты гэта чаго, контра, мне тут?.. Над савецкай уладай сьмяяўся, гад!.. А зараз...— ён не знаходзіў слоў, задыхаўся, але неяк аўладаў сабою, выціраючы адваротам далоні клейкі пот з твару, сказаў:

— Пішы мне зараз расьпіску, што заўтра вывезеш хлеб, і заўтра-ж ты ў мяне пойдзеш, куды сьледуе. Там дапытаюцца, адкуль ты такіх прамоў наслухаўся!

— Арыштаваць ты мяне можаш, а расьпіскі не напішу і хлеба ня дам!

— Пішы кажу табе!..

— Трошкі пачакай!..

— Я цябе па добрасьці прашу...

Баньнік пашоў, але злосьць так люта ўзгарэлася ў ім, што ён не сутрымаў і, схапіўшы за клямку дзьвярэй, крыкнуў:

— Зараз прыду і высыплю сьвіньням гэты хлеб! Лепш яны няхай патрэскаюць, ніж вам, чужаедам!..

— Сьвіням? Насенны?—Нагульнаў падскочыў да дзьвярэй, выхапіў з кішэні наган, стукнуў Баньніка калодкай у вісок. Той пахіснуўся, прытуліўся да сьцяны, абціраючы сьпіною пабел, стаў валіцца на падлогу. Упаў. З віска, з ранкі, змочваючы валасы, высачылася чорная кроў. Нагульнаў, ужо не валодаючы сабою, стукнуў лежачага некалькі разоў нагою, адышоў. Баньнік, як рыба, што ачнулася на сушы, зяхнуў ротам разы два, а потым, чапляючыся на сьцяну, пачаў падымацца і толькі сёньня стаў на ногі, як кроў пашла куды больш. Ён маўчучы выціраў яе рукавом, з абеленай сьпіны яго ссынаўся мелавы пыл. Нагульнаў піў проста з графіну гадкую цёплую ваду, ляскаючы аб край зубамі.

Скоса глянуўшы на ўстаўшага Баньніка, ён падышоў да яго, узяў як кляшчамі за локаць, штырхнуў да стала, сунуў у руку аловак:

— Пішы!..

— Я напішу, але гэта будзе вядома пракурору. З-пад нагану я што хочаш напішу... Біць пры савецкай уладзе не дазволена... Яна — партыя — табе таксама за гэта ня прось-ціць! — хрыпла мармытаў Баньнік, зьнясілена садзючыся на табурэцік.

Нагульнаў стаў насупраць, узьвёў курок нагану:

— Ага, контра, і савецкую ўладу і партыю ўспамянуў! Цябе не народны суд будзе судзіць, а я, вось зараз-жа і сваім судом. Калі не напішаш,—застрэлю, як шкоднага гада, а потым пайду за цябе ў турму хоць на дзесяць гадоў. Я табе ня дам над савецкай уладай насьміхацца. Пішы: „Расьпіска". Напісаў? Пішы: „Я быўшы актыўны белагвардзеец, маманта-



Пасьля зачыненьня зьезду дэлегаты разыходзяцца з Дому Культуры

вец, са зброяй у руках прыступэў да Чырвонай арміі,—бяру назад свае словы". Напісаў? „свае словы, надзвычай ганебныя для УсеКП". УсеКП з заглаўнай літары ёсьць? „і савецкай улады, прашу прабачэньня прад імі і абавязваюся і надалей хоць я і ёсьць схаваная контра...

— Ня буду пісаць. Ты чаго мяне гвалціш?

— Ня будзеш! А ты думаў як? Што я, белымі зранечы скалечаны, так табе спушчу твае словы? Ты на маіх вачох, насьміхаўся пад савецкай уладай, а я каб маўчаў? Пішы, душа з цябе вон!..

Баньнік прыгнуўся над сталом і зноў аловак у яго руцэ памалу папоўз па лісту паперы. Ня здымаючы пальца са спуску нагана, Нагульнаў разьдзельна дыктаваў:

— „хаця я і ёсьць контра схаваная, але савецкай улады, якая дарагая усім працоўным і здабытая вялікай крывёю працоўнага народу, я шкодзіць ні вусна, ні пісьмова, ні справамі ня буду яе ганьбіць і назаляць ёй, а буду цярпліва чакаць сусьветнай рэвалюцыі, якая усіх нас, яе ворагаў сусьветнага маштабу—падвядзе пад пункт замерзаньня. А яшчэ абавязваюся ня класьціся поперак шляху савецкай улады і ня зрываць сяўбу і заўтра 3 сакавіка 1930 году адвезьці ў агульны сьвіран".

У гэты час у пакой увайшоў пасланец, з ім трох калгасьнікаў.

— Пачакайце трошкі ў сенцах!—крыкнуў Нагульнаў і, паварочваючыся тварам да Баньніка, працягваў:—...„сорак два пуды насенных зернят пшанічнай натурай. У чым і падпісваюся". Расьпішыся.

Баньнік, на твар якога вярнулася чырвань, расчыркнуўся устаў.

— Ты за гэта адкажаш, Макар Нагульнаў!

— Кожны з нас, за свае адкажа, але калі хлеб заўтра не прывязеш,—заб'ю!—Нагульнаў згарнуў і палажыў расьпіску ў грудную кішэню зелянцовай гімнасьцёркі, кінуў на стол наган, правёў Баньніка да дзьвярэй. Ён аставаўся ў сельсавеце да поўначы. Пасланцу загадаў не адлучацца і з дапамогаю яго ўвёў і замкнуў у пуставаўшым пакоі яшчэ трох калгасьнікаў, якія адмовіліся ад вывазу насеньня. Ужо за поўнач, зламаны стомай перажытым хваляваньнем, заснуў седзячы за сельсавецкім сталом, палажыўшы на даўгія далоні ўскудлачаную галаву. Да сьвітаньня сьніліся Макару вялізарныя натоўпы сьветошна адзетага народу, які нясупынна рухаўся і нібы паводкай затапляў стэп. У прасьветах між людзьмі ішла коньніца. Усялякай масьці коні мясілі капытам мяккую стэповую гразь, але грукат конскіх капытаў быў чамусьці гулкі і асадзісты, нібы эскадроны ішлі па разасланых лістох жалеза. Адліваючыя срэбрам трубы аркестру раптам зусім блізка ад Макара заігралі „Інтэрнацыянал" і Макар адчуў, як звычайна заўсёды ў яве, шчэмкае хваляваньне, гарачае казытаньне ў горле.. Ён угледзіў у канцы праходзіўшага эскадрону свайго пакойнага дружка Міцьку Лобача што засечаны урангелеўцамі ў 1920 годзе у бойцы пад Кахоўкай, але ня зьдзівіўся, а ўзрадваўся і, раштурхваючы народ, кінуўся да праходзіўшага эскадрону. „Міця! Міця Пачакай!" клікаў ён, ня чуючы ўласнага голасу. Міцька абярнуўся на сядле, паглядзеў на Макара звычайна, як на чужога, незнаёмага чалавека і паехаў рыс сьсю. У тую-ж хвіліну ўгледзеў Макар свайго былога веставога Цюліма, забітага польскай куляй пад Бродамі у тым-жа 1920 годзе. Ён імчаў да яго. Цюлім імчаў, сьмяючыся, трымаючы ў правай руцэ повад Макаравага каня. А конь, усё такі-ж беланогі і сухагаловы, ішоў завадным, высока і гарда пясучы галаву, калясом сагнуўшы шыю...

Скрып аканіц, якія ўсю ноч матляліся на вясеньнім ветры, сплючы прымаў Макар як музыку, пагрукваньне жалезнага даху—як дробны тупат коньскіх капытаў... Разьмятноў, прышоўшы ў сельсавет часоў у шэсьць раніцы, яшчэ застаў Нагульнава сплючы. На жоўтай макаравай шчацэ, асьветленай сінякаватым сьветам сакавіковай раніцы, напружанай у чаканьні застыла ўхмылка, у мучыцельным напружаньні шавялілася разгатае брыво. . Разьмятноў раштурхаў Макара і вылаяўся

— Нарабіў дзялоў і сьпіш? Вясёлыя сны бачыш і выскаляешся? За што ты Баньніка пабіў? Ён на сьвітаньні прывёз насенны хлеб, здаў і зараз-жа махнуў у раён. Любішкін прыбягаў да мяне, паехаў Баньнік заяўляць на цябе ў міліцыю. Дастукаўся? Прыедзе Давыдаў, што ён цяпер скажа? Эх, Макар!..

Нагульнаў пацёр далонямі апухлы ад дрэннага сну твар і раздумчыва ўсьміхнуўся:

— Андрушка! Які я зараз сон ба-а-а-чыў? Вельмі-ж цікавы сон

— Ты пра сны свае кінь гавэндзіць! Ты мне пра Баньніка раскажы.

— Я пра такога гада ядавітага і гаварыць не хачу! Кажаш—прывёз ён хлеб? Ну, значыць падзейнічала... Сорак два пуды насеннага—гэта табе ня кот наплакаў. Каб з кожнай контры пасьля аднаго ўдару нагана, на сорак пудоў хлеба выскаквала, дык я-б усё жыцьцё тое і рабіў-бы, што хадзіў-бы дый стукаў іх. Яму за яго словы не такую бубну трэ' было выбіць. Няхай радуецца, што я яму ногі з азадку не павырываў. і з запалам, бліскаючы вачыма, скончыў:

— Ён-жа падлюга, з генэралам Мамантавым цягаўся! Да таго часу нам шкодзіў, пакуль яго ў Чорным моры ня выкупалі, да яшчэ і зараз спрабуе поперак дарогі лягчы, шкоды нарабіць сусьветнай рэвалюцыі. А якія ён мне тут словы пра савецкую ўладу і пра партыю гаварыў! На мне ад крыўды валасы дыбам падняліся!

— Мала што. А біць не павінен ты, лепш бы арыштаваць яго

— Не, не арыштаваць, а забіць яго-б трэ' было!—Нагульнаў турботна разьвёў рукамі.—І чаго я яго ня стукнуў? Ніяк не зразумею. Вось аб чым я зараз шкадую.

— Дурням цябе назваць — пакрыўдзішся, а дуру ў цябе чарпаць ня вычарпаць. Вось прыедзе Давыдаў,—ён цябе разбукварыць за такія рэчы!

— Сямён приедзе,—адобрыць мяне, ён не такі сучок, як ты!

Разьмятноў, сьмяючыся, пастукаў сагнутым пальцам па стале, а потым па лбу Макара, упэўніў:

— Аднолькавы гук, а,—але Макар сярдзіта адвёў яго руку стаў нацягваць паўкажушок. Ужо трымаючыся за дзьвярную клямку, не паварочваючы галавы, буркнуў:

— Эй, ты, разумнік! Выпусьці з парожняга пакою дробных буржуяў, да каб хлеб яны сёньня-ж адвезьлі, а то вось памыюся, ды вярнуся і зноў іх пасаджаю.

У Разьмятнова ад дзіва вочы на лоб палезьлі... Ён кінуўся да пуставаўшага пакою, дзе захоўваліся сельсавецкія архівы і каласавыя экспанаты з мінулагодняй сельскагаспадарчай выстаўкі, адчыніў дзьверы і ўгледзіў калгасьнікаў: Краснакутава, Анціпа Грача і дошленькага Апалона Пескавацкава. Яны ня дрэнна перапачавалі на разасланых на падлозе камплектах старых газэт, пры зьяўленьні Разьмятнова падняліся.

— Я, гражданы, вядома павіне... пачаў быў Разьмятноў, але адзін з паддеглых арышту, старэнькі казак Краснакутаў жвава перабіў яго:

— Ды што там талкаваць, Андрэй Сьцяпанавіч, вінаваты, слоў няма... Адпушчай, зараз прывязем хлеб... Мы тут ночкай трошкі паміж сабою парадзіліся, ну і парашылі адвезьці хлеб... Чаго-ж ужо маніць, хацелі прытрымаць пшанічку!

Разьмятноў, які толькі што хацеў прасіць прабачэньня за неабдуманы ўчынак Нагульнава, улічыў абставіны і адразу перабудаваўся:

— Вось і даўно-бы так! Вы-ж калгасьнікі! Сорам насеньне хаваць!

— Калі ласка, выпушчай нас, а хто старое ўспомніць...—сорамна ўсьміхнуўся ў асьпідна-чорную бараду Анціп Грач.

Шырока расчыніўшы дзьверы, Разьмятноў адышоў да стала, і, трэба сказаць, што ў ім у гэты момант заварушылася думка: „А можа і мае рацыю Макар? Каб лепш падцісьнуць, — у адзін дзень засыпалі-б".



Рамонт вупражы ў калгасе імя АДПУ



Брыгадзір рамонтнай брыгады правераe якасьць рамонту сельгасінвэнтару. Калгас АДПУ

ПЯТРОК ЖЫРАКОЎ

# ДРУГОЕ ЖЫЦЬЦЁ

*(НАРЫС)*

...Нават жудасна аб ім успомніць. Голад, холад, галеча—гэта тое, што разам называецца бедняцкім жыцьцём. Гэта тое, аб чым часта імкнецца расказаць Прахор Хаванскі, калі спаткаецца са „сьвежым" чалавекам. Пры гэтым ён вельмі нэрвуецца. Хочацца расказаць аб усім і неяк выходзіць усё разам. Для гэтага ён не знаходзіў патрэбных слоў. Думкі пераблытваліся, і ён цяжка ўздыхнуўшы заканчваў—

— Жыцьцё бядняцкае... хто яго ня ведае...

* * *

Пяць дзесяцін зямлі і дзесяць душ сям'і—так жыў Прахор, калі быў яшчэ ў „мальцах". Яшчэ раньні золак ледзь узьнімаўся над полем пакрытым золкай расой,—Прахор з касой у руках выходзіў на чужую пожню. (На свой „лапік" выходзіў тады, калі ўсё пакашваў у людзей). І калі вечар заплюшчаў павекі, калі цемень спускалася на зямлю, ён прыходзіў дахаты. І пахлябаўшы голае стравы, зморaны клаўся да заўтрашняга золаку. На заўтра кто-небудзь з сясьцёр сходзіць у лес „па закрасу" ў юшку, якая ў большасьці складалася з грыбоў... і вячэра зноў чакае гаспадара.

Шэрае жыцьцё, бясхлебнае жыцьцё, але маладосьць бярэ сваё. У неўзабаве прышоў той дзень, калі Прахор ажаніўся з такою-ж бяднячкай Пёклай.

— Яшчэ лішняя душа за стол,—гаварыў яго бацька.

І аднойчы за вячэраю бацька вёў размову з Прахорам:

— Ты, цяпер—асобны гаспадар. Прахор на гэта нічога не адказваў, бо здагадаўся, што думае бацька.

— Ты гаспадар, і я гаспадар. А хата з двумя гаспадарамі—ня хата. Трэ' дзяліцца.

— А што-ж дзяліць у нас,—загаласіла старая матка.

— А тое, што маем,—сумна адказаў бацька. Яму самому шкада пакідаць евайго сына—Прахора з жонкай на адзін га зямлі. Але нельга парушаць старадаўніх звычаяў селяніна.

І з гэтага часу Прахору прышлося „сесьці" на адзін га. Выйдзе ўраньні, агледзіць сваю зямельку, некалькі разоў абыйдзе яе ўкруг.

— ...Трэба жыць... а як жыць... ні каня, ні каровы, толькі вось гэтая жменька зямлі... Паглядзіць на гароды суседа Тункевіча і яшчэ больш зашчыміць сэрца. На роўнай зялёнай пожні ў яго пасуцца пяцера коняй, сытыя, стройныя, дужыя.

— Чаму так неаднолькавыя людзі За чым ён багаты... Ён-жа нічога ня робіць. Зачым я... і ён ня мог дагаварыць гэтых слоў. Пад грудзі падпіраў нейкі ком. З упалых воч выступалі некалькі салёных кропляў.

* * *

— Пазыч каня мне на гадзіну якую. Зрабі міласьць, не адкажы,—зьвяртаўся Прахор да Тункевіча.

— Браток, самому патрэбны. У горад еду.

— Дык-жа на пяцёх не паедзеш. Тункевіч замяўся. І зьмяніўшы тон гаварыў.

— Аднаму табе толькі магу дапамагчы. Люблю дапамагчы людзям. Сэрца баліць, калі гляджу на цябе.

— А заплаціць-жа чым за каня—пытаў Прахор, бо ведае, што гэта не дарма.

— Ну што з цябе браць, Прахор. Не магу я з цябе браць нічога. Сэрца баліць, калі гляджу на цябе. Ну прыдзеш пакасіць да мяне на якіх пару дзён. Але, заваўжыўшы, што ад такой „ласкі" Прахор нават зьмяніўся з твару, пачынаў яго ўпэўніваць:

— То-ж—конь. Каня даю табе, ня што іншае. А далей Тункевіч пачынаў:

— Ведаеш, Прахор, у мяне троху пожні ёсьць, хачу яе табе аддаць. Ведаеш—самому патрэбна, але не магу не дапамагчы табе. Натура такая ў мяне жаласьлівая.. Прахор здагадаўся наконт якіх „пожан" гаворыць Тункевіч. Ён калі ішоў сюды дык бачыў каля жыта неабкошаныя аамежкі.

— Ну,—працягваў Тункевіч,—дасі мне тады, калі ў даўгу ня хочаш заставацца.. дасі тады Пёклу сваю на дзень які папалоць да мяне. Лехі ў мяне няпоўныя. За тое сена мець будзеш. Сьмела—воз сена.

— Цэлы воз?—зьдзіўлена спытаў Прахор. Спытаў таму, што ведаў, там і паўвоза ня будзе.

„Крывасос"—хацела вырвацца ў Прахора. Але змаўчаў. Не хацеў псаваць адносін свайго „суседа", бо ведае, хаця і з такой „ласкай", але ня раз прыдзецца зьвярнуцца да яго..

...Ні каня, ні каровы, падумаў Прахор. Жыцьцё бядняцкае.

* * *

Мінулае, далёкае—далёка.
Тружлівае – аддадзена ў архіў.

Калісьці тут быў панскі фальварак. А зараз на гэтым месцы шырока раскінуўся калгас імя Ланцуцкага. У панскім маёнтку жыве зараз Прахор. Калісьці каля гэтага ганку, ён бяз шапкі дрыжэў перад панам, а зараз тут сам гаспадар. У памяці яго падчас стаіць закураная струхлеўшая хатка, у якой жыў раней. Зараз Прахор з сям'ёю ў 7 душ, займае два вялікіх пакоі. Пёкла пільна сочыць за іх чыстатой. На сьцяне вісіць

**Коні калгасу АДПУ, якія добра дагледаліся на працягу ўсяго году**



некалькі стракатых плякатаў. У абодвух пакоях электрычныя лямпачкі распрыскваюць промні ва ўсе бакі. Ніхто яшчэ з калгасьнікаў не прайшоў каля Прахоравай хаты, каб не зайсьці да яго. Усе да яго неяк прызвычаіліся.

— Ну да каго-ж я зайду на сяло, як не да Прахора, з кім можна лепш за ўсё парадзіцца, як не з Прахорам,—гаварылі калгасьнікі. Яны больш за ўсё знаходзілі ў ім нешта блізкае да сябе, чаго ня было ў іншых.

Калі апошні промень сонца схаваецца за ўзгоркам, калі цемень моўчкі асядае на прамёрзшую зямлю,—Пёкла хутчэй сьпяшаецца падаіць карову, прыбраць у хаце, каб не спазьніцца на лікпункт. Управіўшыся каля хаты, яна з ахвотаю бярэ сшытак і аловак, якія далі ёй на лікпункце і бяжыць на заняткі.

— Не маладая я ўжо. Пяты дзесятак пайшоў, але да навукі вялікую ахвоту маю. Жыла—ведаю як гэта прыемна, калі няпісьменная. Няпісьменны—усё роўна што сьляпы,—гаварыла яна калгасьніцам, якія прыходзілі да яе. Расьпісацца ўжо ўмею, — зноў з ганаровасьцю гаварыла яна сваім таварышкам.

— Ды табе ўжо толькі партфэль трэба,—жартавалі яны над Пёклай.



**Дэзынфэкцыйная камэра для акурваньня коняў гаручай сэрай для зьнішчэньня кароставага клешча**

Сам Прахор, калі спраўляецца ад працы—моўчкі садзіцца за стол і доўга сядзіць над шэрымі радкамі газэты.

— А ведаеш, Пёкла,—так анцірэсна жыць,—гаварыў ён сваёй жонцы. Пёкла на гэта нічога не адказвала, але ў глыбіні яе душы бушавала нязьмерная радасьць. Яна вельмі задаволена тым, што вучыцца сама і двое дзяцей. Яна рада таму, што іх жыцьцё стала падобным на людзкое, пры гэтым ні на міг не забываючы аб мінулым далёкім бядняцкім жыцьці.

* * *

Чатыры гады, як Прахор з сям'ёю ў калгасе. Але за гэты час ён здаецца памаладзеў удвойчы. Нарэшце, яму прышла магчымасьць паказаць свае здольнасьці да працы, паказаць, што ён быў бедняком не за тое, што гультай, як гаварылі гэта іншыя.

— Усякую работу магу, ніякае работы ня цураюся,—гаварыў ён.

— Ніхто не хацеў трапаць лён. Праўда, паскудная работа, але я з цёмна да цёмна трапаў яго. Мы з жонкай—рука ў руку. Калі возьмемся за што, дык сораму ня будзе. Я з сям'ёй у сёлетні год выпрацаваў тысячу працадзён. Хлеб у мяне на стале—нявыходны, аб чым нават і ня думаў. Ён кожнаму паказваў свае засекі, дзе поўна насыпана рознага хлеба, і гэтым ён ганарыўся перад калгасьнікамі.

— Мне на год хлеба—набіваючыся хопіць. 30 пудоў жыта маю, 100 пудоў бульбы, пшаніцы 5 пудоў, буракоў 30 пудоў. Хлеба куды хош,—паўторваў ён.

— Карову маю, дзьве авечкі, сьвіненка кожны год гадую. Любому серадняку козыра дам.

— Анцірэсна жыць, калі падумаеш. Я век пражыў і апрача сярмягі і лапцей нічога не насіў. А цяпер у мяне і з адзежыны і з абутку... Усякую апранаху маю.

— Анцірэсна жыць, — ніколі так ня думаў—і зноў пачынаў ён.

* * *

Далёка раскінулася сьнежнае, аксамітнае мора. На яго сыпле праменьнямі шчырае сонца. Ад лёгкага ветру, ціха непакойна шумяць старадаўнія хвоі. Там за гэтымі зялёнымі хвоямі некалі стаяла Прахорава пахілая хата, там ён некалі працаваў адзін на маленькім кавалку зямлі. Зараз адтуль па марозным паветры далёка нясецца фыркаНьне калгасных коняй, і лязг плугоў. Гэта спробны выезд у поле. Прахор з сур'ёзным выглядам на твары запрагае свайго каня, які да яго прымацаваны. Пасьля старанна аглядае збрую, плуг. Усё ў парадку. І зараз на яго твары расплывалася вясёлая ўхмылка. Гэта таму, што Прахор ня мог стрымацца ад вялікага задавальненьня. Ён здаволены тым, што да ворыва падрыхтаваны лепш за ўсіх.

Няхай заўтра зарунее гэта бязьмежнае поле, і ён заўтра-ж без усякіх затрымак разам з калгасьнікамі выедзе на шырокі папар.

Ён усім карэньнем зросся з калгасам. Ён жыве кожнай яго маленькай часткай. Жыцьце калгасу—жыцьцё Прахора.

**Калі мы лепш правядзем сяўбу, якасна лепш апрацуем зямлю, то пасьля таго, як мы расплацімся з дзяржавай, у нас на руках застанецца хлеба ўдосталь.**

*(З адозвы 1-га Ўсебеларускага зьезду калгасьнікаў да ўсіх сялян-калгасьнікаў БССР)*

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

Друк. імя Сталіна. Зак. № 1032. У ліку 3.000 экз. Уп. Галоўлітбела № А—138

ЛІНАРД ЛАЙЦЭН.



# ХЛЕБ І ПЛЕЧЫ

У Рызе гнуцца пад цяжарам плечы.
У Гельсінгфорсе носяць лес на судны
Плечы старыя, плечы маладыя,
Плечы ў Лёндоне і Сіракузах,
Вынесьлі той-жа цяжар на бераг.

Немец, італьянец, англічанін—
Плечы тыя-ж—той-жа хлеб і дошкі,—
Праца адна, адна сіла,

Размова адна, мова і воля,
Яднаная ў піску карабельных вожак,
У дзікім водгуку ланцугоў,
І лябёдак, падымаючь цяжар штo.

Там, дзе хвалі плёскаюць у борты
Усюды боль адна, адна турбота:
— Хлеба, хлеба і работы.

ЛІНАРД ЛАЙЦЭН

# АСФАЛЬТ

Ёсьць асфальт розны і адменны—гледзячы дзе
яго бачым і на вошта ідзе.

Ня толькі той. што ў турмах сырых адчуваем,
Калі ў хваляваньнях і муках праходзяць дні,
І ня той, што надоле, які мы шаруем, калі прымушаюць нас,
І ў песьнях няволі мы мусім які ўспамінаць,
Што страшны як ноч, і жорсткі як біч.

І ня толькі такі, які ў Бэрліне, Вене ці Рыме,
Над якім ў шляхэтнай задуме пархумны башмак,
Ці бот прапацелы грыміць,
Альбо мільгануць аўтошыны
Якога-нібудзь прайдзісьвета,
А можа лавіць, разганяць з куляметамі паліцыя мчыць.

І ня толькі гэты, такі
Што ў вялізных катлох кіпіць,
Пад ліпамі бульвару, як глянец

Для лоску вясельных вуліц
— Пасьля барыкадных баёў разбураных і расстраляных.

Ёсьць асфальт самы адменны,
Ёсьць асфальт у Маскве:
Новы асфальт, на новым месцы,
У яго новая каштоўнасьць ёсьць,
Новыя думкі песьціць, яго цьвёрдая, бліскучая гладзь.

І асфальт, тагды ня толькі асфальт для крокаў,
Па якім ляскацяць калёсы і шорхаюць шыны,—
Ён тады як збавіцель—ад вёскі старой, дзе бруд,
Ён тагды ачысьціцель—ад кулакоў і гразі:
Ён думак тагды збавіцель—ад мяшчанскіх пут.

Чысты асфальт—чысты чалавек,
Дзе мяняецца установка, там каштоўнасьць робіцца іншай
І новае набывае значэньне—старое-ж прэч
Як тэхніка—так і рэч.

П. КІКУТС

# КАСТРЫЧНІК ВЯЗЬНЯЎ

Хвілінамі—
Тут не гадзінамі,
А сэрцам—
Падлік вядзем..
Тaварыш.
Ты чуеш?
Над намі
Хтосьці ўсхвалёвана
У камэры цёмнай
Крочыць—ідзе.
Ён таксама
Сэрцам падлічвае бег
Тых хвілінаў,

Што сэрца сьціскаюць
Турэмнай сьцяною,
І зорнасьць
вачэй яго гасяць.
Ён—зьвязка мускулаў,
Вырваны з цела
Мацнейшае клясы.
Та-ва-рыш!
Ты чуеш?
Якая ўпэўненасьць крокаў?
Хай камэры моцна
Гучаць пад нагамі;
Грудзі вышэй,

Хай час
Мітульгою
Прамчыцца
над намі.
Калі-б вырваць
Нашыя сэрцы
І глянуць—
Будзе кожнае з іх
Крывёю поўным,
агністым
і
чырвоным.

К. ПРЭДНЭКС

# НАШЫ ТРАКТАРЫ НАСТУПАЮЦЬ

*(урывак з паэмы)*

Ад царскай Расіі гнільлю вее,
Як ад хаўтураў старога часу...
Наш камсамолец кіраваць трактарам умее,
І нас ня душыць крызісу траса.
Застой, разбурэньне па тым баку маюць,
А нашы Саветы наступаюць.
Гігант пяцігодкі ў Сталінградзе,
Фармуючы сталь у трактары;
Тэмпы спаборніцтва растуць у суладзьдзі,
Творчы ўздым палымнее—гарыць.
На тым баку заводы зачыняюць
і зачыняюць,
Бо нашы трактары наступаюць.

І харкавец рапартуе ўзьнята,
За трактарам трактар выходзіць з варот,
На тым-жа баку навін багата,
Клетрак банкрутуе на звод.
На тым баку банкі зачыняюць,
А нашы трактары наступаюць.
У нас камбайны працуюць ня знаючы
змогі,
Мы збожжа возім на сваім аўто.
Белагвардзейцаў папа кліча на падмогу,
Абвяшчае нам крыжовы паход.
Сусьветныя фашысты нам пагражаюць,
Бо нашы трактары наступаюць.

У саўгасах няспынна гудуць трактары,
Перагукаюцца ў суседніх калгасах.
Мы ведаем: цяжка стыхію скарыць,
Але цьвёрдасьць нязломна ў рабочае
клясы.
Ворагі нашы глебу губляюць,
Бо сталінскія трактары наступаюць.
Трактары імкнуцца ленінскай дарогай,
А Сталін сьмелай рукой кіруе.
Нас вітае сусьветная перамога,
Мы рыхтуем магілу буржуям.
Люты капітал у крызісе канае,
А сацыялізм пераможна наступае.

Аўтарызаваныя пераклады з латыскай мовы *МІКОЛЫ ХВЕДАРОВІЧА.*

Коні калгасу АДПУ, якія добра



# НА СХОДЗЕ АКТЫВІСТ ГРЫМЕЎ, ПРЫШЛА ВЯСНА ЁН ЗАВАЛІЎСЯ СПАЦЬ




На сходзе
актывіст грымеў,
угнуўшы лоб,
як бык:

— Плугі, калёсы
на зіме
рыхтуйце да сяўбы!



У лютым
холадна было.
Прачнуўся...
— Што? Вясну?

— Здурнелі вы?!—
пагладзіў лоб,
ды... зноў сабе заснуў...



Прышоў дамоў.
Забыты сход.
— У сьнежні? Рыхтаваць?
— Наперадзе—
амаль ня год!—
і заваліўся
спаць.



Калі-ж вясна
прышла з палёў—
ня сталі
справай сны—
прачнуўся хлопец
і зароў:
— Р-ыхтуйся
да вясны!!!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1931 г

АДРАС РЭДАНЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 Тэл. № 17—09.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

8

КРАСАВІК


ЗЬМЕСТ:





Да гэтага ён вучыўся дома. Свае раньнія дзіцячыя гады Уладзімер праводзіў гэтак, як і большасьць дзяцей таго часу і яго асяродзьдзя: улетку—у бясконцым блуканьні па берагох Сьвіягі з вудачкай у руках, або ў бязьмежных гарадзкіх садох, узімку—у хаце сярод сваіх, у вузкім коле равесьнікаў—таварышоў.

Бялявы, з карымі вачыма, самы вясёлы ў сям'і, Уладзімер Ільліч, заўсёды спыняў на сябе ўвагу ўсіх, хто наведваў дом Ульянавых сваёй кметлівасьцю ў адказах на запытаньні і вясёласьцю.

Дырэктар гімназіі Ф. А. Керэнскі, бацька А. Ф. Керэнскага, са ўсёй рашучасьцю праводзіў у сваёй гімназіі „політыку ізоляцыі". Апроч кола таварышоў па гімназіі ў Уладзімера Ільліча былі сябры сярод дзяцей знаёмых яго сям'і, але як таварышы па гімназіі, гэтак і дома ніхто ня ўносіў рэволюцыйных думак.

Толькі, як Уладзімер перайшоў у апошнюю клясу гімназіі, у сувязі з нарастаньнем рэволюцыйнага руху ў Расіі, а таксама дзякуючы ўдзелу ў гэтым руху брата Александра, Уладзімер Ільліч пачынае бліжэй знаёміцца з тымі політычнымі абставінамі, у якіх у той час знаходзілася Расія. Прыкметная для блізкіх людзеў замкнёнасьць Уладзімера Ільліча яшчэ больш узмоцнілася з моманту арышта Александра Ільліча.

Суворыя рэпрэсыі, якія пачаліся пасьля шэрагу тэрорыстычных актаў народавольцаў, далі новы напрамак яго думкам, і рэволюцыйная хваля падхапіла яго.

Кара сьмерцю старэйшага брата, жандармскія рэпрэсыі, якія наваліліся на лібэральна-рэволюцыйную сям'ю Ульянавых, яшчэ больш укаранілі ў Уладзімера Ільліча патрэбнасьць лютай барацьбы з царызмам.

Пры сканчэньні гімназіі Уладзімер Ільліч быў кандыдатам на атрыманьне залатага мэдалю, які адчыніў перад ім унівэрсытэцкія дзьверы, але пакараньне брата, выклікаўшы няпрыхільныя адносіны з боку настаўнікаў, уплыла таксама і на настрої начальства; аднак, бліскуча вытрыманыя ім выпушчальныя экзамены прымусілі начальства выдаць Уладзімеру Ільлічу—першую ўзнагароду.

Дырэктар гімназіі паслаў у Казанскі унівэрсытэт наступны „водзыў аб вучні Ульянаве Уладзіміры".

„Ульянаў Уладзімер, вельмі талянавіты, заўсёды старэнны і акуратны. Ульянаў ва ўсіх клясах быў першым вучнем і пры сканчэньні курсу нагароджаны залатым мэдалем, як найпаважанейшы па посьпехах, разьвіцьці і паводзінах.

„Ні ў гімназіі, ні па-за яе сьценамі ня было заўважана за Ульянавым аніводнага выпадку, каб ён словам або справай выклікаў нядобрую думку аб сабе з боку начальства або настаўнікаў гімназіі. За вучэньнем і моральным разьвіцьцём Ульянава заўсёды дакладна наглядалі бацькі, а з 1886 г. пасьля сьмерці бацькі, адна маці, якая ўсе клопаты свае згуртавала на выхаваньне дзяцей. Добрыя вынікі хатняга выхаваньня, відаць, былі ў добрых паводзіных Ульянава.



Будынак гімназіі, дзе вучыўся У. І. Ленін.

„Прыглядаючыся бліжэй да хатняга жыцьця і характара Ульянава, я ня мог ня прыкмеціць у ім залішняй замкнёнасьці"...



У. І. Ленін пасьля паступленьня ў гімназію (1879 г.)

Гэтак пісаў дырэктар аб сваім вучні Ульянаве. І гэта вельмі характарна для гэтага пэрыоду жыцьця Уладзімера Ільліча. Гэтыя зьявы былі як-раз вынікам пералому, які наступіў у яго за апошнія гады вучэньня ў гімназіі.

У гэты час ён упяршыню задумваўся над лёсам рэволюцыйнага руху, упяршыню пачаў сур'ёзна думаць над політычнымі пытаньнямі і цікавіцца імі для таго, каб пасьля вырасьці Ленінам—правадыром сусьветнага пролетарыяту ў змаганьні за лепшае жыцьцё, за соцыялізм.

Бацькаўшчына Ільліча, бацькаўшчына вялікага Леніна—не Сімбірск: у Леніна няма бацькаўшчыны, яго бацькаўшчынай можна назваць кожны пункт на земнай кулі, дзе б'ецца пульс рэволюцыйнай барацьбы.

Ад цэнтраў сусьветнае індустрыі—Эўропы і Амэрыкі—да далёкіх краін Азіі, Афрыкі і Аўстраліі,—Леніна ведаюць, Леніна любяць і ўсё з большай любоўю наведваюць шматлікія экскурсіі працоўных быўшы Сімбірск—сучасны Ульянаўск, дзе вуліцы, сады, будынкі напамінаюць пра далёкае мінулае Уладзімера Ільліча.



# ЛЕНІН У СМОЛЬНЫМ



Уладзімер Ільліч Ленін у сваім працоўным габінэце у Смольным у 1917 годзе.

Праца мастака І. БРОДСКАГА.

# ВЯСНА Ў КО









Тры тыдні
упарта вясна наступала,
Тры тыдні
давала зіма адбой...
І кроў ледзянела
ў разлогі сьцякала,
і рэкі ўздуваліся
тэю крывёй...

Масты ледзяныя
ўзрываліся з громам
І з грукатам, скрогатам
рушылі ўніз,
І сонца—прожэктар
з каманднае стромы
Шалёна сьвяціла
на поле вайны...

І тройчы вяртаўся назад
люты вораг,
І ў бойцы астатняй
разгромлены быў...
Цяклі ручаіны
ў лагчынах, разорах...—
...І ўжо падыходзіў
час сяўбы...

У бездараж тую,
тры дні й тры ночы
Ў далёкі колгас
прабіраўся абоз.
Ён з гораду вёз
брыгаду рабочых,
Ён з гораду
слаўных хлапцоў вёз.

І ўпартыя ногі
у ботах юхтовых,
Што калісь хадзілі
ў атаку ня раз,
Бяз лішняга шуму,
бяз моцнага слова
Спакойна мясілі
дарожную гразь..

Быў сэнс найглыбейшы
у моманце гэтым:
Суровая мудрасьць
жаданьняў і мэт...
Вялічная ўздумнасьць
стаяла над сьветам
У космічным суладзьдзі
бязьлікіх плянэт.

І лепшая з іх,
што завецца зямлёю,
Улоньне сваё
расчыняла вясьне,

## ...У КОЛГАСЕ.

Аддацца,
каб кожнай сваёй баразною,
І новым насеньнем
ізноў запладнець.

І радасьць была
нявымерна глыбокай,
Сьвяціліся ў вочах
праменьні яе,
Як выйшлі колгасьнікі
ў поле далёка,
Спаткаць, каб
брыгады чаканы прыезд...

Ужо набухалі
пупышкі на веццы,
І гнёзды зьвівалі
на дрэвах гракі,
А дзіўная праца
ішла пад павецьцю,
Сьпявалі жалезны свой сьпеў
малаткі.

І бачна было,
што колгас не асіліць,
Каб выйсьці у поле
гатовым, у час...
Але аддавала
брыгада ўсе сілы,
Каб вывесьці ў строй
на сяўбу колгас.

І праца кіпела
штодня да паўночы,
І сыпаўся
поту салёны град...
Здаліся машыны
рукам рабочых
І сталі
адна за другою у рад

І радасьць была
на колгасаўскіх гонях,
І вусны тэй радасьцю
буйна цьвілі,
Як выйшлі на поле
жалезныя коні,
Плугі уразаючы
ў цела зямлі...

Ударнікі цэхаў
вярнуліся ў горад...
Ударнікі поля—
на кліч баразны.
Так воляй упартай
і працаю спорнай
Быў выканан плян
бальшавіцкай вясны.

**Алесь Звонак.**









# НАРАДЗІЛАСЯ ТРЫНАЦЦАЦЬ—ІМЯ КОМУНАР

**Нарыс ВАСІЛЯ СТАШЭЎСКАГА**

Сабралася ў Райвыканком чалавек восемнаццаць. Калі рабіць колгас, значыць рабіць яго сёньня, бо час не чакае.

— Позна ўжо. Праз які тыдзень трэба ісьці ў поле.

Гудзе сход.

— Запісалася ў колгас дваццаць два. Тут прысутнічае восемнаццаць,—абвяшчае старшыня сходу.

— Я прышла, каб выпісацца.

— Хто там хоча выпісацца?

— Я—Сымоніха.

— А Сымон пра гэта ведае?

— Няхай сабе ведае, ці ня ведае, а я заяўляю.

— Ну, што-ж, сілком ніхто трымаць ня будзе.

— І я таксама не магу састаяць,—заяўляе стары Анісім.

— А вы, дзядзька, чаму ня можаце састаяць?

— А так, што слабы здароўем і хачу памерці ў сваёй хаце.

— Дык-жа з хаты вас ніхто чапаць ня будзе.

— Не, я не пайду. Няхай запісваюцца ўсе, дык пры канцы і я. А да суседа: ня будуць чапаць... Кось, кось пакуль у аглоблі.

— Таварышы, ніякага высяленьня з мястэчка вас ніхто рабіць ня будзе. Мы аб гэтым некалькі разоў казалі: ня слухайце провокацыі. Партыя і комсамол будуць усімі мерамі дапамагаць вам, першым організатарам соцыялістычнай гаспадаркі ў мястэчку.

— А чаму мы павінны быць першымі, няхай хто другі,—падаў голас той, што „хачу памерці ў сваёй хаце“.

Тут ужо некаторыя з маладых колгасьнікаў ня ўтрымаліся:

— Ідзі ты, дзядзька, на сваю печ і не раскідай нам справы.

— Ну дык і пайду.

— Ідзі.

Стары не пайшоў. Ды ніхто, апрача Сымоніхі, не пакінуў сходу. Аднак, у колгасе з дваццаці двух чалавек засталося дванаццаць.

— Таварыш землямер, нарысуйце на дошцы плян зямельнага вучастку.

— А мы ведаем. За рэчкаю.

— Нічога, няхай нарысуе.

У землямера ёсьць некалькі плянаў на паперы. Адзін з іх ён дае патрымаць і, відаць, з яго крэйдаю пераносіць на дошку.

Шчыльней згуртаваліся колгасьнікі каля дошкі. Наперадзе сядзіць, прыжмурыўшы вочы, Ціхон. Углядаецца стары ў тыя рыскі, якія выводзіць землямер, думае, і яго фантазія таксама рысуе плян.

У гэты час да стала падышоў малады рослы ў вайсковым шынэлі хлапец.

— О-о-о... Дзяніс.

Ціхон падняў галаву, глядзіць, не пазнае свайго сына. Дзяніс адразу пазнае бацьку, проста па шапцы, па кажушку. Вітаецца з усімі, нарэшце з бацькам. З усімі вітаўся па вайсковаму, браў пад казырок. Узяў і бацьку. Але тут-жа нагнуўся і, па ранейшай прывычцы, пацалаваў бацьку ў руку.

Такая радасьць, якую адчуваў цяпер Ціхон, рэдка бывае. Старшыня Райвыканкому нядаўна ў гэтым раёне. Дзяніса бачыць першы раз, але чырвонаармейскі шынэль падбадзёрыў і яго.

— На пабыўку, таварыш?

— Так, на пару дзён.

— Гэта твой бацька,—паказвае старшыня на Ціхана.

— Так.

— Падрывае нам усю работу. Ня ведаем, што з ім рабіць.

Ціхану гэты жарт старшыні спадабаўся. Ён з лёганькай усьмешкай глянуў на старшыню і зараз-жа апусьціў вочы, бо цяпер усе глядзелі на яго.

— Комсамолец?—пытае старшыня Дзяніса.

— Кандыдат партыі.

Ціхан расьце. А ў думках: „от псяга і не напісаў“.

— Далёка дзе служыш?—пытае старшыня.

— Я дэмобілізаваны. Цяпер працую ў рэдакцыі.

Землямер глянуў на Дзяніса, пасьля зрабіў на дошцы яшчэ некалькі рысак і дапажыў.

— Ну вось прыблізна ў асноўным плян вучастку.

За рэчкаю, насупраць сядзібы Ясіноўскага, на лепшым кавалку зямлі напісана: 170 *га*. Гэта пад яравыя засевы. Увосень плошча пашыраецца ў бок балота.

— А калі ў нас будзе не дванаццаць, а трыццаць сем'яў?

— Тады яшчэ лепш: тады займаецца ўся плошча да самага лесу.

— А калі будзе 100 сем'яў?
— А тады займаем і на гэты бок рэчкі.
А тут малавата будзе зямлі. Калі-б далучыць сюды Драздоўскія хутары, а тады-б вышла якраз.
— О, іх цяжка паварушыць гэтых хутаранцаў,—падаў голас Ціхон.
— Нічога, паварушым, дзядзька,—адказвае старшыня. Я думаю што колгас іх сумее паварушыць, як сьледуе.
— Вучастак зямлі добры, няма чаго казаць, а вось аб'езд дрэнны. І далёка і грэбля паскудная.
— Дык вось я хачу сказаць далей,—зварочваецца землямер,—сёлета-ж мяркуецца асушка балота. Гэтая дуга рэчкі, якая падыходзіць да гароду Ясіноўскага, дзе, значыць, будзе комбінат, выпрамляецца. Адносіцца далей.
— Як, адносіцца рэчка?
— Так, будзе пракапана новае русло. А ў проекце мы маем новую грэблю, якая будзе ісьці ад камбінату, проста на ваш колгасны вучастак. Значыць, тут-жа будзе пабудаваны новы мост.
— І гэта будзе зроблена на працягу гэтага лета,—зазначае старшыня.
Шмат яшчэ гутарылі аб пляне. Разрасталася творчая фантазія маладых колгасьнікаў, Толькі некаторых брала сумненьне наконт балота:
— Кажаце, балота? Хоць сенажаць і паша дрэнная, але ўсё-такі ёсьць, а тады можам застацца і бяз сена і бяз пашы.
Тут узяў слова Дзяніс.
— Я, таварышы, за свой кароткі час прабываньня ў рэдакцыі два разы выяжджаў на раён, дзе зроблена мэліорацыя. Тое, што там пасьля асушэньня вырасла за адзін год, дык старое балота не дало-б таго за пятнаццаць год.
І Дзяніс даў малюнак буйных зялёных аўсоў, вікі.
— Касою не павернеш. Паехаў я, калі была ўборка. Такое гушчыні коп найлепшых харчоў я ня бачыў.
Слухаюць колгасьнікі. Калі-б можна было ў гэты момант сфотографаваць іх уяўленьні, мы ўбачылі-б: аднаго сярод густых коп вікі з аўсом, другога з возам вікі па новай дарозе, трэці стаіць з возам каля свайго невялічкага гуменца і думае, як яго ўціснуць у дзьверы, чацьверты складае вялікі стог, пяты вялікую адрыну і г. д.
А вось адзін з іх шосты, ці дванаццаты, гэта ня важна, падаў голас:
— Ну, а калі ўсё мястэчка пойдзе ў колгас, дык як мы тады будзем дзяліць зямлю?
— Ха-ха-ха!—выбухнуў сьмех. Адзін хлапец дык траха не зваліўся з табурэткі.
— Чаго ты пакаціўся!—закрычаў ня яго гэты чалавек.
А Ціхан зварочваецца да яго:
— Колгас-жа, ён не падзяляе зямлі, а злучае каб значыць у адно.
— Ну, дык я ведаю. Гэта ўсё ў адно месца?
А той малады з табурэткі:
— Зямлю-ж не пацісьнеш так, як сьнежку. Разараў межы, вось табе і ў адным месцы.
— Ну, дык я ведаю. Але гэта будзе такі кавалак?
— А ў саўгасе як?—задае пытаньне Ціхан.
— Я ведаю...
— Нічога, дзядзька. Кавалак зямлі вызначаны. Пачынайце гуртам, колектывам працу.
Падняўся той, што „ў сваёй хаце памерці".
— Я слухаў тут... і так што скажу, як гласіць мая галава. Калі так яно ў парадку пойдзе, як тут казалі, тады і я застаюся.
— А вы-ж выпісаліся,—адказаў адзін.
— А я прашу, так што, назад упісаць.
— Няхай сам дасьць расьпіску, а то будзе па дваццаць разоў выпісвацца.
Дзядзька з крыўдаю адказвае:
— Добра табе гаварыць пра расьпіскі, калі ты граматны. А мяне хто вучыў?
Далей зварачваецца ён да старшыні:
— Таварыш старшыня, так што я няграматны і прашу вас даць за мяне расьпіску.
— Добра, дзядзька, я за цябе паручаюся,—адказаў старшыня.
— Прымаем—зварачваецца ён да колгасьнікаў.
— Прымаем—адказалі хорам.
І ў гэтым простым галасаваньні кожны адчуў магутную сілу колектыва.
Назва яго—Комунар.
— Тады ўпішэце і мяне,—адазваўся адзін моцы серадначок Марчук, калі комунараўцы скончылі сход.
Пытаньне з Марчуком засталося адчыненым.

Позьнім вечарам выходзілі з памяшканьня Райвыканкому трынаццаць маладых колгасьнікаў комунараўцаў.
— Дык колькі-ж гэта нас? Здаецца трынаццаць.
— Трынаццаць.
— От на яго дзіва, няхай-бы адным больш альбо адным менш.
— Чаму?
— Лічба такая.
— Плюнь на забабоны.
— Ды яно-ж так, але народ пачне выдумляць штукі.
— Няхай выдумляюць. А мы організаваліся і пабачым, што выйдзе з іх сьмеху.
Месяц скрыўлена паглядаў з-за цьвінтара. У ім, відаць, адбіўся настрой тых, хто трывожна тупаў па мястэчку і чакаў вестак са сходу: „колгас раскідаўся" і пачуў „колгас ёсьць". Імя яму—Комунар.
Няпрыемная сёньня „лічнасьць" у местачковага месяца.
— Бачыш, як скрыўлена паглядае ён.
— Гэта паглядае Ясіноўскі,—жартуе малады комунаравец.
Слова „Комунар" абляцела ўсё мястэчка.
Адзін Сайка балагол закінуў яго ў хат дзесяць.
Комунар!
Комунар!
Трынаццаць!
Трынаццаць!
Гарэла газовачка ў варажбіткі Аўдолі. Тры жанчыны схіліліся над ёю.
— Скажэце, бабулька, як яно будзе?
Варушыцца старая на прымурку:
— Што, ня чую, галубкі...
— Скажэце нам пра жыццё.
— Ня чую, галубкі.
— Пра жыць-цё.
— Ня чую, галубкі.
— Пра жыць-цё.
— Ня чую і ня ведаю, галубкі мае.
Адна палажыла кавалак сала. Бабулька пашавялілася і дастала з пячоркі карты.
— Іх трынаццаць чалавек бабулька.
Марудна раскладаюцца карты. Трасуцца рукі. Шавеляцца губы.
— Трынаццаць, кажаце... так і паказвае. Нічога ня будзе. Трынаццаць, ды яшчэ на сыходзе маладзіка... Нічога ня будзе. Усё будзе добра—шыпела старая баба-варажбітка.
А ў хаце, у невялікім гурце сям'і і яшчэ трох колгасьнікаў разьвіваліся гутаркі сходу. Расказвалі Дзянісу пра ўсе местачковыя навіны, пра тую брахню, якая сыпецца на іх, організатараў колгасу, на Камітэт, пра тое, як Ясіноўскі ходзіць і сябруе з Іванам Падзёньнікам, з Сымонам.
— Спачатку ўсе казалі: „гэта яўрэі хочуць выкінуць хрысьціян у колгас, каб самім застацца ў мястэчку... „А сам, нябось, з нэпманамі сяброўства трымае".
— Пазабіраюць,—кажа,—лепшыя гароды. Комбінат заграбае вакол сябе лепшую зямлю. Ім будзе выгада, а нам злыбеда.
— Гэта пра злыбеду ня ён казаў, а Іван.
— Ну, а Івана хто навучыў? Думаеш сам Іван такое выказвае? Ён цягне тую нітачку, якую даў Ясіноўскі. А дзядзька адказвае Івану: „А які ў мяне ці ў цябе гарод? Калі-б прышлося выкапаць упоперак магілу, дык і ня хопіць. Мёртваму ня хопіць, а ня тое, што жывому".
— Ясіноўскі часта і да мяне пад'яжджаў—дадае Ціхан. Трэбуй,—кажа,—зямлі з саўгасу. Напішы сыну, каб з Чырвонай арміі напіскаў.
— Цяпер, як пачалі вазіць бярвеньне на гарод, дык ён і апусьціў галаву.
— Сьмешна вышла ў яго з Сымонам. Частаваў, частаваў таго, пазычыў хамут, а як убачыў, што той прывёз бярвеньне на гарод, дык на другі дзень паслаў хлопца сыскаць. А мы яму кажам: не аддавай пакуль што, вазі бярвеньне, а пасьля аддасі. Дык ён нешта з тыдзень вазіў.
Шмат аб чым расказвалі Дзянісу, а Дзяніс ім.
Вячэрала.
І трэба-ж гэтай маці, зафарбавала чарніцаю і паставіла на стол пляшку. А Дзянісу наліла ў кубачак чаю з жалудоў.
А назаўтра чарнілі падкулачнікі Ціханаву хату. Падглядзілі ў вакно. „Колгасьнікі гуляюць, радахтар Ціхонаў кубкам п'е... Як бачыш спалошчуць гэты колгас".
На другі дзень сакратар райкому партыі пытаўся ў Дзяніса. Дзяніс расказаў як было.



# Людзі, якія штурмавалі неба

Нарыс Л. КЛІМЧУКА

Абкружаны нямецкім войскам Парыж памірае з голаду. Конскае мяса лічылася раскошай. Елі сабак, кошак, пацукоў. Пры 17 градусным марозе прыходзілася гадзінамі выстойваць у горадзе, каб атрымаць галодны паёк. Паміралі дзеці ля высахшых грудзей. Дровы цаніліся на вагу золата. Рабочыя, страціўшы ўсякія заробкі, вымушаны былі прахарчавацца толькі на тыя мізэрныя грошы, якія яны атрымлівалі, як нацыянальныя гвардзейцы.

Не па многа лепш было становішча служачых. Сьмяротнасьць у Парыжы павялічылася ў 10—15 разоў.

А як раз гэтага і хацеў буржуазны ўрад „нацыянальнай здрады", — каб заключыць мір і прыдушыць рэволюцыйны Парыж.

Узбураныя народныя масы даюць волю сваім думкам у парыскіх клюбах.

— Комуна! Комуна!

На комуну ўсе надзеі. Комуна здолее ня толькі прарваць прускую аблогу, але і знойдзе схаваныя спэкулянтамі, буржуямі і манахамі хлеб і продукты. Комуна выратуе Парыж, а з ім і ўсю Францыю,— вось аб чым гаварылі на сходах, вуліцах, клюбах, майстэрнях.

А тым часам буржуазія рашыла пакончыць з Парыжам, гэтым рэволюцыйным вульканам, горадам бунтароў, выкарчаваць яго незалежнасьць і праваздырства над усёй Францыяй.

Ня сьпіць і Парыж. З часу капітуляцыі перад прусакамі Парыж амаль цалкам належаў нацыянальнай гвардзіі, якая зьяўлялася вялікай сілай і пры тым пролетарскага характару. Ужо 24 лютага 1831 году, калі меркавалася, што ў гэты дзень прусакі ўвойдуць у горад, па закліку Цэнтральнага камітэту нацыянальнай гвардзіі, зьявілася 40 тысяч гвардзейцаў, гатовых сваім жыцьцём заплаціць за недатыкальнасьць да Парыжу.

Нацыянальная гвардзія падмацавала свой уплыў законам 400 гармат, адлітых у свой час на народныя грошы, сабраныя па падпісцы. Гэтыя гарматы былі зараз сабраны ў рабочай ваколіцы Парыжу на Монмарце.



Адпрэзука лістоў палонным комунарам.

Старшыня ўраду „карлік-нагвара"-Цьер, загадвае сваім генэралам адабраць гарматы ў нацыянальнай гвардзіі. Ледзь золак 18 сакавіка, 3000 чалавек пад камандай генэралаў Леконта і іншых, ціха прабраліся на Монмартр і на хвіліну захапілі гарматы. Але каравул пасьпеў узьняць шум, жанчыны, якія ў гэты раньні час хадзілі ўжо заняць сваё месца ў чарзе за малаком, пабеглі будзіць сваіх мужыкоў. Узьняўся страшэнны лямант. Гэтыя тры тысячы ўрадавых войск апынуліся ў палоне ўзрушанага натоўпу. Мужчыны, жанчыны і дзеці—усе ўзялі ўдзел у абароне заваёў нацыянальнай гвардзіі.

Гарматы былі адваяваны назад, а разам з тым парыскі пролетарыят перамог у гэтую раніцу буржуазію, якая пасьпешна ўцякала ў Вэрсаль, каб адтуль рыхтаваць крывавую лазьню Парыжу—гэтаму гораду бунтароў.

Яшчэ да гэтага гістарычнага дню,—5 сакавіка мы чытаем, у пачаўшай зноў выходзіць газэце бунтароў—Пер-Дзюшэн, наступны характарны па сіле вобразнага пераконаньня артыкул:

„Цярпець галадоўку, праліваць сваю кроў, выпіць да дна свой сорам, усяго гэтага мала: нам трэба яшчэ заплаціць за тры кватэрных тэрміны.

Ужо больш шасьці месяцаў мы нічога не вырабляем, не прадаём.

Чым-жа мы заплацім за гэтыя тры тэрміны?

Мы ня будзем плаціць за іх.

Дарэмны ўсе патугі біржавікоў; дарэмна судовыя прыставы будуць працаваць і ўдзень і ўночы, дарэмна трыбуналы прыслужываюць ад досьвітку да ночы, дарэмна вайсковыя суды выносяць свае страшныя прысуды, дарэмна брэтонцы Трашу і салдаты Шанаі набываюць свае стрэльбы.

Мы не заплацім...

З сьцяны ня выціснуць масла; з пустых касаў зруйнаванай Францыі ня выцягнуць чатырох мільярдаў кватэрнай платы, якімі штогод узбагачаюцца дармаеды капіталу.

Мы не заплацім...

Нават шпіёны Цьера, якія затаіліся ў Парыжы, нават корэспондэнты рэакцыйных газэт вымушаны былі адзначыць, што паўстаньне 18 сакавіка было сапраўды паўстаньнем усяго працоўнага Парыжу, супроць здрадніцкай буржуазіі.

Вось дваццаць восьмае сакавіка. Дзесяты дзень перамогі Парыж паслаў сваіх дэлегатаў у Комуну.

Бязупынным струменем рухаюцца батальёны з музыкай наперадзе. За імі ідуць члены комуны, якіх выбіральшчыкі пад барабанны грукат адпраўляюць у Ратушы на першае пасяджэньне Комуны.

Вось Монмартцкія батальёны. Барабаны б'юць паход. Уперадзе ідуць пяць чалавек, ствараючы адну шарэнгу: пяць членаў комуны, абраных 18 акругай.

У натоўпе чуваць:

— Падымі хлапчука майго ўверх, няхай і ён таксама пабачыць. Гэткія дні павінны адбіцца ў памяці на ўсё жыцьцё.

І сапраўды.

Вуліца Рыволі, колькі хапае вока, поўная мундзіраў, сьцягаў. Музыка грыміць адусюль. Дзесяць, дваццаць, сто батальёнаў праходзяць, уліваючыся ў шматкаляровае мора сьцягаў, якія бурліва нясуцца на плошчы Ратушы.

Як радасна грыміць музыка. А гэтыя, шырока разяўленыя ірты, якія крычаць марсэльезу... Гэтыя чырвоныя сьцягі з залатою махрай, гэтыя кукарды з чырвоных істужак на штыках, падобныя пучкам чырвоных кветак.

Перад ратушай, на трыбуне, пакрытай чырвоным драпаваньнем, вакол вялікага стала засядаюць члены Цэнтральнага камітэту нацыянальнай гвардыі ў чырвоных шалях з срэбнай махрай.

Тротуары перапоўнены народам.

А яшчэ-ж учора на вуліцы Перамогі былі барыкады, гарматы, і вартавыя падазрона аглядалі грамадзян.

Сёньня ўсё зьмянілася.

Зьнік ранейшы ваяўнічы выгляд. Ня відаць больш барыкад, каравулаў. На дахах поўна людзей. Хлапчукі абляпілі карнізы.

Сонца асьвятляе, надае вялізарнае відовішча.

Яно пераліваецца на штыках і на залатых або срэбных галунах афіцэраў, залівае хвалямі асьляпляючага сьвятла сьцягі ўсіх батальёнаў.

Натоўп крычыць, пяе, раве, бурліць. Што ён пяе?

Марсэльезу...

Што ён крычыць?

Няхай жыве комуна!..

Калі Цэнтральны камітэт абвясьціў імёны абраных у комуну, калі гарматны залп раптам узрушыў увесь горад, з тысячы грудзей пачуўся крык, які славіў рэспубліку і комуну, крык поўны гэткага энтузіязму, гэткага аднадушша і рашучасьці,

што яго не забудзе ніхто з прысутных на гэтым сьвеце, хоць-бы яму прышлося жыць стагодзьдзі.

Сто тысяч стрэльбаў падняліся над сотняй тысяч галоў. Людзі на плошчы кляліся перамагчы або памерці“...

Але перамагчы было вельмі цяжка. Парыская Комуна ня мела самага галоўнага, што гэтак патрэбна для канчатковай перамогі. Ня было належнай партыі, цэментуючай волі, якая-бы злучыла ў адно, групавала і цэмантавала сотні тысяч працоўных, гатовых памерці за жыцьцё комуны.



Адступленьне арміі Комуны на мосьце Аньера.

Комуна, якая жыла і працавала пад грукат артылерыйскай страляніны, усё-ж зрабіла багата для парыскага пролетарыяту. Комуна забясьпечыла пэнсыяй кожнага свайго гвардзейца і яго сям'ю. Яна спыніла продаж рэчаў закладзеных у лёмбардзе. Старую армію яна замяніла міліцыяй, да якой павінны належаць усе грамадзяне, здольныя насіць зброю. Комуна аддзяліла царкву ад дзяржавы, нацыяналізавала маемасьць духавенства. Фабрыкі і заводы, пакінутыя буржуазіяй, комуна перадала рабочым організацыям. Комуна пачала працаваць над тым, каб зрабіць асьвету даступнай для шырокіх масаў, каб сам рабочы і селянін атрымаў тую самую адукацыю, як і багацей, і пры тым дармова, бо „навука ня менш патрэбна для жыцьця, чым вока для зроку“.

Рэволюцыйны рух пачаў распаўсюджвацца за межамі Парыжу. У розных гарадох: Марсэлі, Ліёне, Тулузе організоўваюцца комуны, якія праз некаторы час прыдушваюцца ўрадавым войскам.

Маўчыць адарваная ад Парыжу вёска. Урад, як мага, абклаў блёкадай Парыж, каб адтуль аніводнага слова праўды не даходзіла ў францускія провінцыі. Дзесяткамі тысяч экзэмпляраў распаўсюджвае з Вэрсалю ўрад хлусьлівыя проклямацыі аб тым, што бандыты апанавалі Парыж, што бандыты-комунары б'юць і рэжуць там людзей.

Комуна з гэтае прычыны зьвяртаецца да сялян Францыі з адозвай: якая завецца: „Маніфэст да вясковых рабочых“.

„Брат, цябе ашукаюць. Нашыя інтарэсы адны і тыя-ж. Тое, чаго патрабую я, хочаш і ты: вызваленьня, якога я дамагаюся,—гэта тваё вызваленьне. Табе таксама, як і мне, не стае свабоды, адпачынку, разумовага і духоўнага жыцьця. Ты і я—мы ўсе яшчэ нявольнікі жабрацтва...



Барыкада на пляцы Клішы

Вось ты стары, ты ўвесь час працаваў, аднак, ты не багаты і ў цябе на старасьці год няма нават кавалку хлеба. Уся твая ашчаднасьць пайшла на выхаваньне дзяцей, якіх у цябе забірае рэкруцкі набор ці якія, ажаніўшыся, у сваю чаргу, будучы жанатымі, будуць клапаціцца, каб прахарчаваць цябе. Апусьціўшы голаву, пойдзеш ты ад дзьвярэй да дзьвярэй жабраваць, што цябе так зьневажае. Гэта несправядліва, брат селянін, хіба ты не разумееш гэтага? Калі-б праўдзіва было тое, што ўласнасьць вынік працы, ты быў-бы ўласьнікам: ты-ж столькі працаваў! Ты валодаў-бы тэй маленькай карткай з садам і з гародам, якія зьяўляліся тваей марай, запалам твайго жыцьця, але ты ня змог набыць гэта.

Гэта несправядліва! Вось чаму Парыж паўстае, протэстуе і патрабуе зьмены законаў, якія даюць у рукі багатых усю ўладу над працоўнымі.

... Парыж хоча зямлі—для сялян, сродкі вытворчасьці—для рабочых, работы—для ўсіх

Плады зямлі тым, хто яе абрабляе.

Няхай ня будзе больш ні надта багатых, ні надта бедных.

Няхай ня будзе большні работы без адпачынку, ні адпачынку без работы.

Гэта—мажліва! Для гэтага патрэбны толькі добрыя законы, якія і зьявяцца тады, калі працоўныя не захочуць больш, каб гультаі ашуквалі іх.

Вам ясна цяпер, што справа Парыжу — ваша справа. Калі Парыж падзе, ярмо жабрацтва застанецца на вашай шыі, яна ў спадчыну застанецца вашым дзецям.

Дапамажэце Парыжу атрымаць перамогу і, што-б ні здарылася, добра запомніце гэтыя словы, бо рэволюцыі будуць адбывацца да таго часу, пакуль ня будуць здабыты:

Зямля—сялянам.

Заводы—рабочым.

Работы—ўсім.

І „што-б ні здарылася“—і хоць парыская камуна была на час прыдушана, яна зноў адрадзілася ў 1917 годзе пад тым-жа самым загортаваным у змаганьні чырвоным сьцягом на другой зямлі і другой дзяржаве для таго, каб пад кіраўніцтвам вялікага Леніна стварыць вольны Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

# ЦЬВІК

Ён помніць—
Калісьці ў далёкія годы
Яго на вялікі завод прывязьлі.
І... разам з машынамі ў гэтым заводзе
Ён бачыў магутнае працы разьліў.
І кожную хвілю магутнае цела
Давіла на цьвёрдае цела цьвіка.
І ў працы машыны ўпэўнена, сьмела
Ён стрымліваў колаў жывы перакат.
І можа таму, што ён чуў сваю сілу
У рокаце, грозных і гордых станкоў,
У працы разгоннай—
Заводу машынам
Сваю нявыказную нёс ён любоў.
Ён помніць той час—
Пустыром, карпусамі
Ішлі туманы і брадзіла імгла...
Тады пазнаёмілася з цьвікамі
І з ім пазнаёміла іржа.
І ён сумазаў па разгоне вялікім,
Па працы разгоннай і песьнях машын,
Станкох, дзе быльнёг і самотны і дзікі
Жалезнае цела заводу глушыў.
Як новыя дні у разгоне нясьпынным
І зноў аднавілі магутны завод,
Ён бачыў у новым уздыме машыны
І стружкі і іскры жалезных парод.
Пад вуліцы шумы,
Пад лязгат трамваю,
Пад говар машыны
Ён людзям казаў:
„Я ледзьве трымаю,
Я ледзьве трываю,
Мяне загубіла іржа.“
„Я працы жадаю, таварышы людзі,
Ды толькі хвароба зламала мяне“.
А людзі пачуюць,
І людзі забудуць,
І кожны няўважліва цьвік абміне.
Бяз зьмены за працаю дні прабягалі.
Аднойчы машыне сьпявалі пасы:
„Рыхтуйся, сягоньня прыходзяць брыгады
Завод аглядаць, аглядаць карпусы“.
І людзі прышлі да яго...
і прысталі.
З іх кожны памацаў
І кожны сказаў:
„Ён ледзьве трывае,
Ён ледзьве трымае
Яго загубіла іржа“.
І ў домне вялікай,
І ў домне высокай
Куды высыпалі нарэшце цьвікі,
Ён жыў невялічкаю кропляю сока
У целе пякучай жалезнай крыві.

А. Куляшоў

# Поэзія

## Нацыянал-дэмакратам

Мы—
кляса перамог,
і творчы
свой уздым
пад бураю эпох
загартавалі
мы.
Гісторыя
за нас!..
А вы?!..
што варты вы?!..

Ля нашага стырна
надзейны стырнавы.
Ён—рабочай клясы сын,
у ім—
мільёны сіл,
Мільёны
моцных рук,
яго—
магутны рух.
Зямлю
старых руін
прыгнёту
і маны
Сягоньня
робім мы
Краінаю машын.
І
побытаў сівых
больш
не патрэбна нам.

Тут—
бацькаўшчына ўсіх,
хто
век працуе сам.
Зямлю,
дзе смутак жыў,
мы
змусілі ажыць.
Балотных
нетраў скарб
мы
змусілі паўстаць,
прымусілі зарэць
балотных
нетраў скарб,
а сілу
вольных рэк
пакорна працаваць.
Стары
паганскі міт
мы
выкінулі ў хлам,
ні пан,
і не найміт
яго
ня верне нам.
Таму,
каб разарваць
строй
нашых перамог,—
узброілася „рацьˮ
на
сьметніку эпох.
І што пра іх сказаць?—
Імкнуліся
яны
Краіну
адагнаць
на
рэйкі Скарыны.

Магільных
спраў найміт
хацеў
у буры дзён



Тодар Кляшторны.

крывёю затапіць
здабытае жыцьцём.
Крывавай
помсты гру
ён
зноўку рыхтаваў,
ён
творчасьць
нашых рук
авансам прадаваў.

За гэты вось
аванс,
за справу
вашых дзей
Мы
(міліёны нас)
вам
скажам
кожны дзень:
— Ну, так,
панове,
так,
за нацыю вы...
што-ж!?..
А хто
нібы жабрак
Вільгельму клянчыў,
хто?!..

А хто,
скажэце нам,
у краме
чорных спраў
фашыстым
і панам
краіну прадаваў?
Брыда!..
Ідзеце вон
магільных
спраў майстры,
ня вам
рашаць таго,
што
вырашылі мы!..

Вы
несьлі нам штыхі,
гарматных
громаў гру.
У вас
і папа Пій
напэўна Беларус?..
Ён
так-жа супроць нас
заўжды
паслаць гатоў
прадажнага Хрыста—
страшылішча вякоў.
Ды
ўсіх такіх
сьвятых
Мы
выкінулі ў хлам.
Тут—
бацькаўшчына ўсіх,
хто
век працуе сам.
Гісторыя
за нас!..
А вы?!..
нікчэмнасьць тут!..
Мы
(міліёны нас)
падпішам вам прысуд.

Менск.
8 сьнежня 1930 г.






Расьце і мацнее Савецкі Саюз—бацькаўшчына пролетарыяту

# КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

**Міх. Шмідт.**—Авангарду быць у авангардзе слуўбы. БДВ. Менск. 1931 г. 34 стар. Цана 10 кап.

Пасьпяховае правядзеньне другой бальшавіцкай веснавой сельскагаспадарчай кампаніі гэтага году з сапраўдным рэволюцыйным запалам, на падставе творчага ўздыму працоўных мас рашучага наступленьня на кулака і ліквідацыі яго як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі,—справа выключнай пэрвытычнай важнасьці. Таму ўся работа вясковых партыйных і комсамольскіх ячэек павінна быць падпарадкавана гэтай асноўнай задачы.




Аўтар брошуры вызначае асноўныя задачы парторганізацый вёскі ў часе другой бальшавіцкай вясны, навокал якіх павінны быць мобілізаваны колгасныя і бядняцка-серадняцкія масы.

Зьмешчана тут і пастанова ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы да веснавой пасеўнай кампаніі 1931 г.

**„На фронце колектывізацыі“**—зборнік артыкулаў. БДВ. Менск. 1931 г. 56 стар. Цана 10 кап.

Гэта кніжка зьяўляецца зборнікам артыкулаў, якія папярэдне друкаваліся ў расійскіх кругабежных выданьнях. Тут зьмешчаны: „Новы прыліў у колгасы і клясавае змаганьне“—Д. Лур'е, „Мацней пролетарскае кіраўніцтва колектывізацыяй“—перадавая „Праўды“, „Саўгасы на змаганьне за новы ўздым колгаснага руху“—Міх. Набокаў і „Тактыка шкоднікаў у пытаньнях колектывізацыі“ Я. Нікуліхіна.

Артыкулы брошуры падкрэсьліваюць неабходнасьць актыўнага пролетарскага кіраўніцтва справай колектывізацыі, падкрэсьліваюць вострасьць клясавага змаганьня, якое пяўнікнёна суправаждае процэс перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад.

Апошні артыкул Нікуліхіна ўскрывае шкодніцкую тактыку Кандрацьцеўцаў у пытаньнях будаўніцтва саўгасаў і колектывізацыі.

**Т. Левігаў**—Сельсавет тварам да колгасаў. БДВ. Менск. 1931 г. 98 стар. Цана 17 кап.

Ва ўмовах новага прыроду, ва ўмовах суцэльнай колектывізацыі вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы, роля сельскіх саветаў нязьмерна ўзрастае.

Перад нізавымі органамі пролетарскай дыктатуры ў вёсцы пастаўлены вялізарныя задачы. Сельсаветы павінны зьявіцца сапраўднымі штабамі соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і ісьці на чале гэтай перабудовы. Яны павінны быць рашуча павернуты тварам да колгасаў.

У гэтай брошуры досыць шырока аўтар спыняецца на наступных пытаньнях: сельсавет—організатар колгаснага руху, клясавае змаганьне ў вёсцы, практыка работы сельсавета ў галіне колектывізацыі і чарговыя задачы сельсаветаў.

Кніжка прынясе карысьць нізавым работнікам, пазнаёміўшы іх з асноўнымі задачамі сельсаветаў на новым этапе.

**Язэп Падрэцкі**—Колектывізацыя і работа з беднатой. БДВ. Менск. 1931 г. 54 стар. Цана 12 кап.

Комуністычная партыя заўсёды надавала і надае вялікую ўвагу організацыі батрацтва і беднаты вёскі. Праз організаваную работу з батрацтвам і беднатой вёскі мы ўмацоўваем блёк батрацтва і беднаты з серадняком супроць кулака, умацоўваем дыктатуру пролетарыяту, умацоўваем саюз рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства вёскі.

Кніжачка Падрэцкага якраз прысьвечана задачам і формам работы з беднатой. На грунце пастановы ЦК КП(б)Б „аб становішчы работы сярод беднаты і далейшых задачах“ аўтар дае шэраг конкрэтных парад, якія дапамогуць нізавому работніку ў стварэньні і кіраваньні групамі беднаты.

**Ю. У. Стрэле**—Колгасы БССР да зьезду. БДВ. Менск. 1931 г. 70 стар. Цана 20 кап.

Брошура т. Стрэле знаёміць чытача са станам колгаснага будаўніцтва ў БССР. У шэрагу разьдзелаў аўтар паказвае дынаміку колгаснага будаўніцтва, гаворыць аб асноўных выніках першага году масавай колектыўнай працы. Не забыта організацыя працы і пытаньне аб колгасных кадрах.

У канцы брошуры аўтар дае пляны: засеўных плошчаў, організацыі спэцыялізаваных жывёлагадоўчых і сьвінагадоўчых колгасаў і сіласаваньня на 1931 г.

Брошура зьяўляецца добрым даведчыкам колгаснага руху.

**Н. Дарожкін**—Хваробы збожжа. БДВ. Менск. 1931 г. 104 стар. Цана 90 кап.

Мінімальныя страты ад хвароб расьлін сельскае гаспадаркі СССР можна лічыць сотнямі мільёнаў рублёў. Таму на вывучэньне хвароб і спосабаў змаганьня з імі павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага.

Кніжка Дарожкіна дае асноўныя весткі аб хваробах пшаніцы, жыта, ячменю, аўса, проча і кукурузы і паказвае спосабы змаганьня з імі.




Аўтар расказвае аб галаўні, іржы, ражкох, мучністай расе, сьнежнай плесьні, „п'яным хлебе“, плямістасьці лісьцяў, чорнай плесьні ды інш.

У канцы кніжкі даданы табліцы фунгісыдаў ды іх прыгатаваньня. Ня гледзячы на цяжкасьці мовы гэта кніжка можа быць выкарыстана ня толькі агрономам. Яна прынясе некаторую карысьць і колгасьнікам.

Выданьне Беларускага Дзярж. Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.